www.nv-online.info

№ 19 (4271)

6 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**УВАГА!**

**У сувязі з Міжнародным жаночым днём і зменамі ў рабочым графіку друкарні і “Белпошты” чарговы нумар “Народнай Волі” выйдзе 10 сакавіка.**

## З надыходзячым святам – 8 Сакавіка!

## Жадаем Вам, любыя, пяшчоты і сонечнага настрою!



## Вясновае

Абцалую цябе, абшапчу, адагрэю,
Не пушчу ні на міг у сівую зіму.
Над вяршынямі сосен, над вольным палётам барэю
На далонях прызнання да Бога самога ўзніму.
Я не дам табе слова сказаць – я ўсё іх разгадаю.
Я на вуснах тваіх прачытаю найлепшы свой верш.
Над шляхамі і снамі, над песнямі і над гадамі
Ты, як месячык ясны, у казку маю паплывеш.

**Генадзь БУРАЎКІН.**

**КАДРЫ**

## Атрымалі партфелі...

*А.Лукашэнка ўчора разгледзеў кадравыя пытанні. Ён прызначыў:*

**Кавальчука Сяргея Міхайлавіча** – міністрам спорту і турызму;

**Марыніча Леаніда Адамавіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Узбекістан;

**Кобеца Юрыя Віктаравіча** – намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь.

**Дадзена згода на прызначэнне:**

**Альшэўскага Вадзіма Іванавіча** – намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама;

**Атліванава Віктара Адамавіча** – старшынёй Жыткавіцкага райвыканкама;

**Сілівончыка Паўла Аляксандравіча** – старшынёй Нараўлянскага райвыканкама;

**Гваздзя Сяргея Аляксандравіча** – старшынёй Калінкавіцкага райвыканкама;

**Альшэўскага Дзяніса Аляксандравіча** – старшынёй Зэльвенскага райвыканкама;

**Хоміча Генадзя Баляслававіча** – старшынёй Слонімскага райвыканкама;

**Крупко Івана Іванавіча** – старшынёй Мінскага райвыканкама;

**Салаўя Генадзя Міхайлавіча** – старшынёй Нясвіжскага райвыканкама;

**Ломскага Аляксандра Зіноўевіча** – старшынёй Клецкага райвыканкама;

**Козела Анатоля Станіслававіча** – старшынёй Крупскага райвыканкама;

**Пархамовіча Руслана Віктаравіча** – намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама;

**Чачухі Сцяпана Уладзіміравіча** – старшынёй Глускага райвыканкама;

**Гатоўчыка Дзмітрыя Уладзіміравіча** – старшынёй Дрыбінскага райвыканкама;

**Моўчана Андрэя Леанідавіча** – дырэктарам Дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму;

**Барысенку Алега Леанідавіча** – генеральным дырэктарам ААТ «Гомельтранснафта Дружба»;

**Карачэўскага Уладзіміра Міхайлавіча** – генеральным дырэктарам РУП «Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм»;

**Кавальчука Аляксандра Аляксандравіча** – членам Мінскага аблвыканкама;

**Шчарбачэні Ігара Уладзіміравіча** – членам Магілёўскага аблвыканкама.

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**



# Анамальная зона

## Рэпартаж з адзінага сельсавета, дзе другі раз запар на выбарах перамагае апазіцыянер

Вёска Кабакі разам з суседнім Жычынам адносяцца да Першамайскага сельсавета Бярозаўскага раёна. Да райцэнтра кіламетраў пятнаццаць, побач чыгунка на Брэст і Баранавічы. З працадаўцаў – сельгаспрадпрыемства (калі не пашанцуе) і лясгас (для спрытнейшых). У першым сярэдні заробак каля 300 рублёў і праца «калі скажуць». У другім больш-менш вольны графік і каля 500 рублёў на рукі «чыстымі», затое небяспечна, і апошнім часам здымаюць надбаўкі ды прэміі. Уладкавацца на працу на месцы ўдаецца далёка не ўсім ахвотным. Таму моладзь з’язджае ў Бярозу, Брэст ці Мінск. Нехта зарабляе дзякуючы адносна недалёкай мяжы з Польшчай.

Усё як паўсюль па краіне. З адным выключэннем. 18 лютага жыхар Кабакоў **Валерый Білібуха**, нягледзячы на адкрытыя сімпатыі да апазіцыі і сяброўства з хрысціянскімі дэмакратамі, другі раз запар перамог на выбарах дэпутатаў сельсавета, чым выклікаў, як сам кажа, «сапраўдны перапалох у райвыканкаме».

### Каб не свінні...

Валерый Білібуха нарадзіўся ў Кабаках у 1969 годзе. Бацька 43 гады адпрацаваў на трактары ў саўгасе, маці ў дзіцячым садку глядзела за дзецьмі. Школу (8 класаў) будучы апазіцыйны дэпутат скончыў у родных Кабаках, у 1984 годзе паступіў у Ляхавіцкі саўгас-тэхнікум. Затым была служба ў яшчэ Савецкай арміі (войскі супрацьпаветранай абароны на Поўначы) і вяртанне на радзіму ў 1990 годзе. Да 2002 года працаваў брыгадзірам на ферме ў Жычыне. Пасля праз «цёркі з кіраўніцтвам», як сам тлумачыць, пайшоў у лясніцтва вальшчыкам лесу. Мог бы так і працаваць, час ад часу ганяючы «на Польшчу», каб не свінні.

*Валерый Білібуха:*

*«Усё пачалося, калі яны* (прадстаўнікі ўлад) *сталі ў людзей свіней выдушваць,* – расказвае пра свой прыход у палітыку Білібуха. – *Чума, кажуць. А яе тут амаль і не было! Як гэта так? Прыходзяць і ў тваёй асабістай гаспадарцы шнарыць! Я тады арганізаваў кампанію, пачалі паперы пісаць. Куды мы толькі не пісалі! Нават відэа пасылаў у Адміністрацыю прэзідэнта. З саўгаснага свінарніка. Мы паздымалі, што там робіцца, і паслалі. Потым яшчэ пракуратура бярозаўская прыязджала, але без эфекту ўсё. Гадзюшнік».*

### «Ачухаліся, але ўжо позна было»

Большасць мясцовых жыхароў працуе ў сельгаспрадпрыемстве за 300 рублёў у месяц.

Пра «свінскую» вайну Білібухі даведаўся Павел Севярынец, які ў той час адбываў «хімію» ў суседнім Купліне. Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі БХД папрасіў мясцовых актывістаў прывезці Білібуху пазнаёміцца.

*«Прывезлі мне яго проста ў Куплін,* – расказвае Севярынец. – *Ён адразу спадабаўся тым, што працаваў лесарубам. Я лесарубаў яшчэ з Малога Сітна ведаю.* (У Малым Сітне Севярынец адбываў іншую “хімію”.) *Яны людзі канкрэтныя, простыя... Валерый, можа, недзе чалавек грубаваты, але затое прамы, мне такія людзі сімпатычныя. Памятаю, што ён тады цэлую вёску падняў з гэтымі свіннямі».*

*«Ён мне вочы адкрыў. На тое, што ў краіне адбываецца,* – кажа пра сустрэчу з Севярынцам сам Валерый Білібуха. – *І я паціху ўжо пайшоў уперад».*

Уперад – гэта значыць кандыдатам на выбары ў дэпутаты сельсавета ў 2014 годзе. З суседзяў стварыў ініцыятыўную групу, зарэгістраваў яе ў сельсавеце, сабраў па вёсцы подпісы за вылучэнне і выставіўся кандыдатам. Альтэрнатывы не было, і Білібуха з лёгкасцю стаў дэпутатам сельсавета з вынікам 105 галасоў «за».

*«У райвыканкаме ўсё зразумелі, толькі калі ў СМІ шум пачаўся,* – кажа пра сваю першую перамогу Білібуха. – *Ачухаліся, але ўжо позна было».*

(Заканчэнне на 2-й стар.)

**ЭКСКЛЮЗИВ**

## Нина КОВАЛЬЧУК, мама нового министра спорта

# «Сын всего добивался сам!»

## «Народная Воля» поинтересовалась, чем знаменит новый министр спорта.

Мама Сергея Ковальчука только от журналиста «Народной Воли» узнала вчера, что ее сын стал министром спорта.

– Ой, я сейчас в обморок упаду! – *выдохнула в телефонную трубку Нина Степановна Ковальчук.* – Это не шутка, серьезно? Распереживалась очень…

**– Хорошая же новость!**

– Но уж очень неожиданная…

**– Нина Степановна, а Сергей спортом увлекается?**

– Конечно! В бильярд играет, побеждает часто. А еще на лыжах очень любит – с самого детства.

Вообще спорт любит: плаванием, бегом занимался. Все умеет! Он себя в хорошей физической форме поддерживает.

**– А как он учился?**

– Школу в райцентре с золотой медалью окончил. И очень был сильный по математике. Помню, когда поступил в Одесское высшее артиллерийское командное училище, даже в местной газете о нем написали – он нам вырезку прислал: мол, приехал парень из глубинки, который всех просто поразил своими знаниями по математике!

Сергей у нас очень умный и способный. И я так говорю не потому, что мама. Просто он на самом деле такой.

**– Слышала, что он только в прошлом году женился…**

– Нет, что вы! Это в прошлом году летом он сына Ярослава женил!

А Сергею в этом году в августе 50 лет будет. У него двое детей. Ярославу 24 года, а Ангелина, моя внучка, в седьмой класс ходит. Большая разница между детками…

Ярослав в МИД работает, он окончил факультет международных отношений БГУ.

А вообще у меня четверо детей: Лариса окончила Технологический университет, Игорь тоже с золотой медалью школу окончил, а Александр – с серебряной. Сергей – самый старший.

**– А жена Сергея чем занимается?**

– По профессии она психолог. А где сейчас работает – точно и не скажу.

**– Сын часто вас навещает?**

– Конечно! Он очень заботливый! Любит нас, и наши окрестности, и родину свою…

**– А как он в Службу безопасности президента попал?**

– Вообще, он на Чукотку сначала попал – сразу после Одессы. Я тогда плакала сильно. Он с очень высокими оценками окончил училище и мог выбирать себе место службы. Преподаватели ему посоветовали: мол, пока не женат, послужи в отдаленной точке. И он выбрал Хабаровский край. Там брат мой жил. А его на Чукотку отправили! Мы чуть с ума не сошли за это время! Но он оттуда вернулся не один, а с невестой!

**– Ну вот видите, как удачно!**

– Да, сложилось у них. Семья невестки жила в Украине, они из Донецкой области, город Константиновка. Ее родители – медики, они на Чукотку поехали на заработки. Сына назначили Дедом Морозом в Дом пионеров на Новый год, а невестка там Снегурочкой была. Вот и привез эту Снегурку сюда…

А после Чукотки Сергея направили в Брест – он служил в десантной дивизии. Затем он поступил в Военную академию. Ему предлагали там преподавать, но он ушел в Министерство обороны. Отработал там какое-то время, и предложили ему в Службу безопасности президента. Он и согласился.

**– Трудная служба очень…**

– Не то слово! Времени свободного у него совсем нету! Но Сергей такой целеустремленный, упорный…

А с этим назначением министром спорта – вы меня прямо огорошили, аж сердце зашлось!.. Будем сегодня новости смотреть обязательно!

**– А где Сергей в Минске живет?**

– Недалеко от вокзала. Он долго очень по квартирам скитался, не было у него жилья своего. Не очень давно в Минске квартиру построили. Пробивался везде сам. Никто ему не помогал, да и помочь мы не могли: мы с отцом – очень простые люди, никакого блата у нас не было.

**– Будем надеяться, карьера вашего сына сложится удачно…**

– Благослови его Господь!..

**Марина КОКТЫШ.**

**ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА**

*Сергей Михайлович Ковальчук родился 14 августа 1968 года в селе Журавок Ивановского района Брестской области.*

*В 1989 году окончил Одесское высшее артиллерийское командное училище, в 1999-м – Военную академию Республики Беларусь.*

*С 1989-го по 2004 год служил в Вооруженных силах.*

*С 2004 года – сотрудник Службы безопасности Президента Республики Беларусь. Награжден орденом “За службу Родине” III степени, медалями “За безупречную службу” I, II и III степеней.*

*ЦИТАТНИК*

### «В спорте пока больше проблем, чем успехов»

Об этом А.Лукашенко заявил вчера во время назначения С.Ковальчука.

*«Думай, смотри, с кем работать, выстраивай систему. Но главное – там не хватает дисциплины,* – напутствовал Лукашенко Ковальчука. – *Тренерский состав работает отвратительно, за исключением некоторых.*

*Зарплату надо тренерам повышать, мы уже потихоньку начали в отдельных видах спорта это делать, и пройдемся по всем видам, которые сегодня функционируют. Повысим зарплату, но у каждого тренера должно быть расписание, как у учителя в школе или преподавателя в вузе».*

**ХТО – КАГО?**

### «Россельхознадзор» адступае...

Падобна на тое, што Масква пакрыху адступае – здаецца, у трэці раз перанесена дата забароны на ўвоз на тэрыторыю Расіі беларускай малочнай прадукцыі. Учора з’явілася інфармацыя, што шлагбаум для нашых аграрнікаў будзе апушчаны з 15 сакавіка.

Хочацца спадзявацца, што “ваюючым” бакам да гэтага часу ўдасца знайсці паразуменне і канфлікт урэгулюецца “мірным” шляхам.

**Вольга КУПЦОВА.**

**КРЫМІНАЛ**

### Арыштавалі рабочых



Так, чацвёра рабочых ААТ “Магілёўскі завод “Электрарухавік” апынуліся за кратамі. Супраць іх заведзена крымінальная справа па ч.4 арт.205 (кража, здзейсненая групай асоб у асабліва буйным памеры. 3 лістапада 2017 года па люты 2018-га яны змаглі сцягнуць з прадпрыемства прадукцыі на 37,5 тысячы рублёў.

Калі суд пацвердзіць гэты факт, то рабочыя будуць надоўга пазбаўлены волі.

**Казімір КУХАЛЬСКІ.**

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Зачем плодить безработных и бедных?

«Александр Лукашенко попробовал мое рапсовое масло раньше меня», – так назывался материал, опубликованный в «Народной Воле» 27 февраля. Напомню, это была прямая речь бизнесмена Владимира Адамовича, о котором рассказывалось на газетных страницах.

Владимир Леонидович Адамович – уникальный человек! С чистого листа, не влезая ни в долг, ни в карман государству, создал процветающие фармацевтические предприятия и фермерские хозяйства. Более того, взвалил на свои плечи и обремененные миллионными долгами хозяйства, с которыми не справились назначенные государством руководители. Взвалил – и практически вытащил из долговой ямы, дав возможность честным труженикам зарабатывать на земле приличные деньги. Согласитесь, зарплата, превышающая тысячу рублей, даже по столичным меркам считается большой.



**Знаменитый французский актер Жерар Депардье (слева) в гостях у Владимира Адамовича (справа)**

В июле 2016 года в гостях у Адамовича побывал Александр Лукашенко и высказал пожелание, чтобы таких фермеров-революционеров было побольше в Беларуси. Производимые Адамовичем продукты пришлись по вкусу и французскому актеру-гурману Жерару Депардье, который решил поставлять их в сеть магазинов «Ашан» в Москве.

Так что планов на будущее у Адамовича было, что называется, громадье.

Но не успели мы порадоваться за белорусского самородка, как из Логойского района, где базируются его фермерские владения, пришло известие: 19 февраля этого года Борисовский межрайонный комитет госконтроля наложил штраф на героя нашей публикации. За то, что в 2014–2016 годах недобросовестные партнеры из России и Молдовы не расплатились с ним за поставленный картофель. Вот такой казус! Мало того, что человек уже один раз потерпел ущерб и, заметим, несмотря на потери, скрупулезно рассчитался с государством по всем видам налогов, так государство вместо сочувствия и хозяйственно-правовой помощи решило его же наказать рублем.

Владимир Леонидович в сердцах написал гневное письмо в Логойский райисполком, сообщив, что вынужден уволить с 5 марта 45 человек, отказаться от 800 гектаров земли и распродать технику. Параллельно он обратился в Минский облисполком, взывая о помощи. А также подключил к решению больного вопроса опытного юриста – благо на принадлежащем ему фармацевтическом заводе такой имеется.

Узнавшие о грядущем увольнении работники вышли на стихийный митинг.

Про все это мы честно рассказали в публикации.

И вот как развивались события дальше.

В самый последний день зимы Владимира Адамовича пригласили в Минский облисполком, где его принял первый заместитель председателя Игорь Николаевич Макар – в присутствии руководителя Госконтроля столичной области.

– *Там меня успокоили*, – рассказал нам Владимир Леонидович. – *Предложили не увольнять людей, продолжать работать, как и работал. Пообещали отменить санкции. Объяснили, что это такая процедура…*

Ага, процедура! Скорее, пробный даже не камешек в фермерский огород, а здоровенный булыжник: устоишь или рухнешь? Хорошо, у Адамовича есть штатный юрист, упорство бывшего военного, параллельный бизнес, репутация наконец. А как быть тому аграрию-собственнику, кто еще только встает на ноги? У кого нет под рукой опытного советчика-юриста и запасного завода? К кому не добираются президенты, иностранные актеры и отечественные журналисты? Брать под козырек перед разного рода проверяющими и разоряться?

Господа-чиновники, неужели вам кажется мудрым плодить безработных и бедных?! Вас что, пугают богатые и умные?

Но ведь чем больше таких людей, тем богаче страна в целом.

И в заключение еще несколько слов о владельце «Цнянских экопродуктов». Волнения едва не свалили его с ног. Жутко простыл, однако в постель не слег. Лично объяснялся с людьми, пообещав, что все будут работать дальше. А это значит, что и деловые партнеры могут успокоиться. От далекого Депардье до тех, кто трудится рядом. Знаете, как с ними поступает капиталист Адамович? Безвозмездно передает честным, порядочным и инициативным часть бизнеса. Потому что считает, что реальный стимул двигать дело вперед появляется только при наличии собственной доли в деле. Когда вычитал, что именно так поступает российский олигарх Абрамович, понял, что идет правильным бизнес-курсом.

Позитивный конец этой истории прибавил оптимизма детям нашего героя – сыну Алексею и дочери Татьяне, которые помогают отцу в бизнесе. Ну и, конечно же, родителям: Леониду Станиславовичу и Марии Эдуардовне Адамовичам, которые, кстати, давние и преданные читатели «Народной Воли».

**Людмила СЕЛИЦКАЯ.**

*Логойский район.*

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Анамальная зона

## *Рэпартаж з адзінага сельсавета, дзе другі раз запар на выбарах перамагае апазіцыянер*

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

### «Дэпутат сельсавета можа ўсё»

За чатыры гады дэпутацтва Валерый Білібуха стаў мясцовай славутасцю. З дзясятка спыненых на вуліцах выпадковых мінакоў яго ведалі ўсе. І амаль усе прызналіся, што галасавалі за апазіцыянера. «Ну і што, што ён у апазіцыі? Абы нешта рабіў», – тыповы адказ пра перамогу Білібухі на выбарах. У Жычыне, да якога ад дома дэпутата тры няпоўныя кіламетры, пра свайго старасту адзываюцца яшчэ лепш.

*«Я адразу пачаў з вуліц,* – кажа Білібуха пра сваё першае дэпутацтва. *– Зрабілі вуліцу Садовую, там не праехаць было. Знялі на відэа, запрасілі журналістаў, і ўлады адразу вуліцу зрабілі. Ну вось так пакрысе, пакрысе і пайшло»*.

Потым была барацьба за чыстую ваду. Новаабраны дэпутат сельсавета хадзіў па хатах і збіраў подпісы жыхароў пад заклікам да ўлад пачысціць водаправод. Поспех гэта прынесла толькі частковы. Трубы прачысцілі, а новую станцыю ачышчэння вады паабяцалі толькі ў перспектыве. Білібуха таксама браўся за вулічнае асвятленне, добраўпарадкаванне могілак і іншыя важныя для вяскоўцаў справы. Дапамагчы ўдавалася не заўсёды, але людзі ацанілі.



**Вёска Жычын, дзе мясцовыя жыхары абралі Білібуху старастам.**

### Вольга:



*«Я за Валеру галасавала, як усе. Чаму? Мы з двух зол выбіраем меншае. Ён людзям нічога дрэннага не зрабіў. Людзям дапамагае. Магчыма, ён недзе ў нечым і занадта ўжо крытычны. Што гэта значыць? Шумны ён, шмат крычыць. Але дабіваецца свайго. Дарогу вось нам падсыпаў. А што ён апазіцыянер... Я Валеру даўно ведаю, вырасла ў той жа вёсцы, што і ён. У кожнага свой выбар. У нас жа свабодная краіна, не?»*

### Сяргей:



*«А я, дарэчы, не ведаю, ці ён перамог. Перамог? Ну, цікава, значыць, выйграў... Значыць, давяраюць яму людзі, хочуць, каб нешта памянялася. Ён хоць нешта робіць. Ну як робіць… тут жа не ад яго залежыць. Але не сядзіць, як некаторыя: выйграюць выбары, адседзяць свой тэрмін... Спрабуе нешта зрабіць. Былі б у яго грошы, магчымасці, больш бы мог. Але патрабуе, стараецца. Людзям гэта падабаецца ў першую чаргу... Білібуха тут адзін такі актыўны. Навошта яму гэта трэба? Кожнаму свая дарога».*

### Алена:



*«Дапамагае нам, стараецца. З дровамі дапамагае, па-чалавечы ён мужык нармальны. Тут усе за яго, я думаю. За нас ніхто, акрамя яго, ніколі не заступаўся. Таму я за Валеру галасавала. Ці не страшна за апазіцыянера галасаваць? Ды не ў гэтым жа справа. Я бачу, што чалавек нармальны, стараецца. Апазіцыянер ён ці не... Разумееце, я Валеру даўно ведаю, мы з ім яшчэ г..о разам на ферме мясілі. Ён не такі, што сказаў і забыў. Ён зробіць».*

### «Дарогу зрабілі за два дні»

*«Паабяцаў людзям зрабіць, там чалавек дзесяць жыве, але ўсё ніяк не ўдавалася,* – кажа Білібуха. – *Тады я падышоў аднойчы да старшыні райвыканкама Мікалая Чыжа. Кажу: вы, відаць, ведаеце, хто я і чым дыхаю. Ён мне паабяцаў пад'ехаць на тую вуліцу і паглядзець. Лета прайшло – нічога. Я да абласнога дэпутата – ён мне пра палявыя працы расказвае. Начальнік ДРБУ паслаў туды грэйдар, параўнавалі крыху, а мне даслалі ліст: маўляў, грошай на большае няма. Ну, няма і няма. Я гэты ліст узяў і ў аблвыканкам Сумару* (тагачасны старшыня Брэсцкага аблвыканкама) выслаў. *Праз тыдзень рух пачаўся. І сродкі знайшліся, і жвір, і шчэбень. Дарогу зрабілі за два дні»*.

### «Загналі людзей пад самы плінтус»

За зварот у аблвыканкам Білібуха потым атрымаў «па вушах» ад старшыні райвыканкама Чыжа. Дэпутата сельсавета абвінавацілі ў «звароце да губернатара вобласці, мінаючы раённае начальства».

*«Я потым на сходзе на ўсю залу сказаў: шаноўныя прысутныя, мяне тут брудам палiваюць»,* – кажа дэпутат.

Апошняя на дадзены момант гісторыя супрацьстаяння дэпутата сельсавета Білібухі з мясцовымі ўладамі тычыцца закрыцця стацыянарнай крамы ў вёсцы Жычын, дзе Білібуха абраны старастам. У канцы лета краму закрылі, і ў Жычын пачалі ездзіць аўтакрамы, што моцна не спадабалася мясцовым.

*«Я тады людзям сказаў, што краму закрыюць толькі праз мой труп,* – кажа Білібуха. – *Сабраў подпісы, 56 штук (усяго ў Жычыне жыве 84 чалавекі), – і ў сельсавет. Потым сабраў людзей на сход у сельсавет, уладам дзявацца ўжо не было куды».*

Краму адкрывалі мясцовыя ўлады, «забыўшыся» пра дэпутата. Нанова яе адкрылі 31 студзеня. Білібуху, паводле яго слоў, на адкрыццё нават не паклікалі. Запрасілі абласнога дэпутата і старшыню сельсавета.

*«Дэпутат сельсавета можа ўсё,* – упэўнена заяўляе Валерый Білібуха. – *Галоўнае, каб людзі падтрымалі. Яны на 100 працэнтаў ведаюць, што я апазіцыянер. Але людзі сказалі, што ім без розніцы. Абы нешта рабіў».*

### «Узялі мікрааўтобус і самі выбаршчыкаў галасаваць прывезлі»

Выбары 2018 года для Валерыя Білібухі складваліся вельмі няпроста – горш, чым у 2014-м. Пачалося з таго, што ў сельсавеце вырашылі перакроіць выбарчыя акругі. Білібуха застаўся без значнай часткі выбаршчыкаў, якім дапамагаў папярэднія чатыры гады. Затым нечакана ў апазіцыянера з'явіўся канкурэнт – мясцовы ветэрынар (усе астатнія выбарчыя акругі ў сельсавеце – безальтэрнатыўныя).

*«Быў цяпер канкурэнт. Я ведаю, што ветэрынар, дзе жыве. Але ніколі не размаўляў нават з ім,* – кажа Білібуха. – *Яны мне яго падкінулі, каб «вырубіць» любымі шляхамі. Улада на любую гадасць ідзе, на любую подласць. Па іншых акругах безальтэрнатыўныя выбары былі, а па маёй – не. Відаць, далі каманду маладым спецыялістам, якія жывуць у шматкватэрных дамах, за яго галасаваць».*

За некалькі дзён да галасавання пра Білібуху напісала мясцовая раёнка «Маяк». У артыкуле згадалі гісторыю з судзімасцю. *«Г..м мяне паліць захацелі*, – кажа Валерый. – *Але хто мяне столькі гадоў ведае, той усё зразумеў. У кожнай сям'і па маладосці скандалы, сваркі. Мяне ачарніць хацелі, але нічога не выйшла. Людзі мяне ведаюць. А калі хто не ведае, то насамрэч мог падумаць, што я забойца».*

Гісторыя з судзімасцю ў Білібухі была ў 2005 годзе. Будучага дэпутата сельсавета прызналі вінаватым па артыкуле 186 (пагроза забойствам), артыкуле 154 (катаванне) і абавязалі выплачваць пацярпеламу боку – былой жонцы – грашовую кампенсацыю. 30 кастрычніка 2007 года Валерый Білібуха таксама быў асуджаны па частцы 1 артыкула 205 (крадзеж). На дадзены момант усе судзімасці Білібухі пагашаны. У Жычыне вяскоўцы пра судзімасці свайго старасты не згадваюць і кажуць, што за абранне Білібухі дэпутатам галасавала нават ягоная былая жонка.

*«Злосці на яго не трымаю,* – гаворыць былая жонка Валерыя Білібухі Аляксандра. – *Ён у гэтай барацьбе знайшоў сябе. Мы, магчыма, і разышліся таму, што ён такі актыўны, неспакойны. Заўсёды такі быў... Мы з Валерам сварыліся, як у кожнай сям'і бывае, ведаеце. Я, магчыма, недзе спалохалася, таксама не асабліва ўмела жыць. Званіла ў міліцыю чуць што. Яны спачатку нічога не рабілі, а потым завялі крымінальную справу. На той момант я хацела толькі разысціся з ім, а ён – не. У любой сям'і такое бывае: "пайшла ты нафіг, бо заб'ю". Мы 15 гадоў пражылі з Валерам. Я цяпер на выбарах за яго галасавала, але не таму, што ён муж былы. Валера на самай справе нешта робіць. Быў бы хто іншы такі, я б за іншага галасавала».*

Яшчэ адна нечаканасць адбылася ўжо ў дзень выбараў. За дзве гадзіны да закрыцця ўчасткаў аказалася, што выбарчая камісія гэтым разам адмовілася ад ідэі вазіць скрыню для галасавання па навакольных вёсках і галасаваць дома было магчыма, толькі калі загадзя падаць заяўку. Гэтае новаўвядзенне ледзьве не каштавала апазіцыянеру перамогі.

«*Сказалі, што на гэты раз «тумбачку»* (скрыню для галасавання) *вазіць па вёсках не будуць,* – успамінае Білібуха. – *Пастаянна вазілі, кожныя выбары, а тут не. Гэта яны мяне такім чынам хацелі галасоў пазбавіць. Я на гадзіннік – а там ужо шэсць вечара. Што рабіць? Кінуліся да знаёмага, узялі мікрааўтобус і паехалі ў Жычын. Там пабеглі па хатах, людзей сабралі, хто не галасаваў, адвезлі на ўчастак іх. Каб не гэта, то мог бы і прайграць. У выніку яшчэ 20 працэнтаў недзе тых, хто за мяне, так і не прагаласавалі. Чакалі, што да іх дадому прыедуць з камісіі».*

У выніку канкурэнт Білібухі прайграў, і вальшчык лесу пераабраўся ў дэпутаты сельсавета. Паралельна Білібуха спрабаваў абрацца ў Бярозаўскі райсавет, аднак там ягоным канкурэнтам быў начальнік мясцовай чыгуначнай станцыі, і шанцаў было няшмат. «*Там мяне людзі проста яшчэ не ведаюць»*, – кажа пераабраны дэпутат.

**З жыхарамі Кабакоў ёсць што абмеркаваць.**

### «У яго ўсяго толькі 50,9 працэнта галасоў»

Як так атрымалася, што прыхільнік апазіцыйнай да ўлад партыі БХД, якая зараз ствараецца, вальшчык лесу Валерый Білібуха змог выйграць выбары ў сельсавет другі раз запар? Як яму ўдалося ўключыць сваіх прадстаўнікоў у склад выбарчай камісіі?

*«Гэта беларускі цуд адбыўся,* – кажа Білібуха. – *Які ў нас падлік галасоў на выбарах, што ёсць нехта яшчэ з апазіцыі ў камісіях? Няма нікога... У іншых апазіцыянераў, відаць, не атрымаецца паўтарыць тое, што я зрабіў. Улады ўжо апякліся на мне, цяпер кожнага будуць прашчупваць. Цалкам шчупаць будуць, гэтым жа КДБ руліць».*

Білібуха кажа, што пакуль не мае праблем на працы, ідэолаг толькі пацікавіўся, ці на самай справе ён збіраецца ісці ў дэпутаты. Міліцыя і КДБ таксама не праяўляюць да яго вялікай цікавасці. Увечары па вёсцы хадзіць пераабраны дэпутат не баіцца. Перыядычна ездзіць у Мінск на сходы аргкамітэта па стварэнні БХД, але займацца нечым, акрамя праблем Кабакоў і Жычына, не хоча.

*«Не, не хачу я ў вялікую палітыку,* – кажа Білібуха. – *Каб такімі рэчамі займацца, патрэбна вышэйшая адукацыя... Не хачу. Давайце я вам лепш свой ролік пакажу ў інтэрнэце, 70 тысяч праглядаў набраў».*

Старшыня Першамайскага сельсавета Валерый Шупенік першапачаткова пагадзіўся паразмаўляць пра дэпутацтва Валерыя Білібухі і яго дзейнасць у Кабаках і Жычыне. Аднак пасля нечаканага тэлефанавання (са слухаўкі данеслася: «Валерый Пятровіч, не давайце ніякіх каментарыяў»), якое адбылося падчас размовы, катэгарычна адмовіўся працягваць гутарку, не сказаўшы пры гэтым, хто яму званіў і адкуль. Пагаварыць з ім яшчэ раз удалося праз некалькі дзён.

*«Не такі ён хвалёны дэпутат, як сам сябе называе,* – сказаў старшыня сельсавета ў размове з намі. – *У яго цяпер усяго 50,9 працэнта галасоў, паводле афіцыйных падлікаў. За канкурэнта прагаласавалі 38 працэнтаў, за Білібуху – толькі 50,9 працэнта. У 2014 годзе было 90 працэнтаў, цяпер толькі 50. Вы самі ўсё бачылі, калі прыязджалі да нас у Кабакі, самі разберацеся».*

**Алесь ПІЛЕЦКІ,**
**Андрэй ШАЎЛЮГА,**
**Зміцер ВАСІЛЬКОЎ.**

*(Паводле Радыё Свабода)*

*Бярозаўскі раён.*

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Чаму я не купіў энцыклапедыю «Янка Купала»?

На нядаўнім Міжнародным кніжным кірмашы ў Мінску ў мяне, прызнацца, разбягаліся вочы – ад незлічонай колькасці беларускіх і замежных выдавецтваў, кожнае з якіх хвалілася сваёй прадукцыяй. Да адных прылаўкаў запрашалі падыспі традыцыйныя рэкламныя плакаты, да другіх – сучасныя мультымедыя, да трэціх зазывала колавая лера, да чацвёртых – цэлы хор, які натхнёна выконваў царкоўныя песнапевы.

Прэзентатыўнасці і зазывалаў хапала. Малавата было пакупнікоў. На слабыя продажы паскардзіліся мне і знаёмыя прыватныя выдаўцы. Для параўнання – пазалетась на гэткім жа кніжным кірмашы ў Кіеве мне давялося назіраць чытачоў з адмысловымі возікамі, якімі мы звычайна карыстаемся ў супермаркетах. І возікі тыя не пуставалі. На жаль, на мінскім кірмашы набытых кніг за сабой ніхто не вазіў і пад абедзвюма пахамі не насіў, хоць ля прылаўкаў часам было не пратахнуцца. Але часцей там шалясцелі кніжныя старонкі, чым купюры.

На кірмаш я прыйшоў з канкрэтнай мэтай – набыць энцыклапедыю "Янка Купала", пра выхад якой напярэдадні паведаміла БТ. Першае яе выданне выйшла ў далёкім 1986 годзе і з цэнзурных меркаванняў мела безліч недахопаў. Скажам, там нават не згадваліся дзясяткі купалаўскіх твораў, у якіх пільнавокі Галоўліт разгледзеў прыхаваную антысаветчыну ("Акоў паломаных жандар", "На Куццю" ды інш.). Замоўчваўся ў той энцыклапедыі і анталогія аднаго верша **"А хто там ідзе?"** у перакладах на замежныя мовы, што пабачыла свет у 1982 годзе і была парэзана на макулатуру…

Пагартаўшы першы том новага трохтомнага выдання, я ўжо хацеў даставаць кашалёк. А потым думаю – дай зірну, што напісана ў бесцэнзурнай энцыклапедыі пра тую скандальную анталогію. Знаходжу патрэбны артыкул: першае выданне пабачыла свет у 1982-м, другое, дапоўненае і дапрацаванае, у 1983-м. І ўсё. А што за "дапоўненні" і "дапрацоўкі" мелі месца – ні слова.

Уражаны, цікаўлюся ў прысутнага тут жа дырэктара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" **Уладзіміра Андрыевіча:** як жа так? Ён прызнаецца, што падрабязнасцяў той гісторыі не ведае. А без "падрабязнасцяў" гісторыя тая – як байка без маралі, незакончаная і незразумелая.

Дык што ж адбылося ў 1982-м, калі ў Беларусі адзначаліся 100-я ўгодкі з дня нараджэння першага народнага паэта? Чаму згаданая анталогія (81-моўная!) была знішчана? Ды толькі па той прычыне, што рускі пераклад верша "А хто там ідзе?" на яе старонках быў змешчаны ў алфавітным парадку, пасля румынскага! А павінен быў, на думку ідэалагічных наглядчыкаў, пачынаць кнігу. Па іх перакананні рускі перакладчык Максім Горкі не мог апынуцца пасля аварца Расула Гамзатава, англічанкі Веры Рыч, балгарына Найдана Вылчава, балкарца Кайсына Кулієва, грэка Яніса Рыцаса, італьянца Альда Севярыні, кітайца Чжу Цзі, латыша Юлія Ванага, літоўца Антанаса Венцлавы… І кнігу накладам 10 000 асобнікаў, выдадзеную на дарагой імпартнай паперы, у супервокладцы, з цудоўнымі ілюстрацыямі народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага, пусцілі пад нож. Па камандзе зверху. Прычым дадзена тая каманда была ў самы непадыходзячы момант – падчас юбілейнай урачыстасці ў Акадэмічным тэатры оперы і балета БССР.

Вось як той драматычны эпізод запомніўся ўкладальніку анталогіі літаратуразнаўцу **Вячаславу Рагойшу:** "Кніга прадавалася ў тэатральным кіёску, як самы значны юбілейны рарытэт яе расклалі на стале перад урачыстым прэзідыумам, перад замежнымі гасцямі і кіраўніком юбілейнага камітэта намеснікам старшыні Савета Міністраў Нінай Сняжковай. Яна з цікавасцю гартала кнігу, потым раптам занервавалася, падазвала памочніка і нешта шапнула яму, паказваючы на кнігу… Ужо ў перапынку кніга не прадавалася, у той жа дзень было спынена яе друкаванне на мінскім паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа, а работнікі выдавецтва атрымалі сур'ёзныя вымовы" (Рагойша В. "Мой Трыглаў", 2012).

Укладальнік спрабаваў выратаваць сваю шматгадовую працу, спасылаючыся на агульнапрынятыя ў свеце алфавітна парадак. "Які алфавіт – тут палітыка!" – прыкрыкнуў на яго выдавецкі начальнік. І дзесьці запрацавалі нажы кніжнай гільяціны…

На макулатуру пайшоў увесь адрукаваны наклад, кнігу канфіскавалі з усіх бібліятэк, там былі знішчаны нават бібліяграфічныя картачкі. Як быццам тае "няправільнай" анталогіі ў свеце не існавала. Такім чынам вярхоўнае кіраўніцтва БССР яшчэ раз даказала сваё "раболепие" перад Масквой, зняважыўшы і сябе, і Купалу, і запрошаных да супрацоўніцтва замежных перакладчыкаў.

"Правільны" варыянт анталогіі "А хто там ідзе?" выйшаў прыкладна праз год, у 1983-м, з рускім перакладам у пачатку, з дададзеным перакладам на мову дары.

Вось пра якія "дапаўненні" і "дапрацоўкі" проста абавязана была расказаць чытачам новая энцыклапедыя "Янка Купала". Але чамусьці не расказала. У сувязі з чым у мяне на кніжным кірмашы адпала ахвота яе набываць. Адна няпоўная і напаўпраўдзівая Купалаўская энцыклапедыя 1986 года выдання ў маім кнігазборы ўжо ёсць, навошта мне другая?

Кнігі, як і людзі, маюць свае жыццяпісы – меў усё ж рацыю старажытны рымлянін Тэрэнцыян Маўр. Ёсць свой жыццяпіс (драматычна-прыгодніцкі) і ў анталогіі аднаго верша "А хто там ідзе?". І не трэба яго замоўчваць ці перакручваць, каб кагосьці не пакрыўдзіць ці камусьці дагадзіць. Тым больш жыццё анталогіі працягваецца – тая ж "Беларуская энцыклапедыя" анансавала яе выхад ужо на 101-й мове, з прадмовай міністра замежных спраў Уладзіміра Макея. Хочацца спадзявацца, што хоць у гэтае выданне палітыка не ўнясе ніякіх недарэчных карэктыў і шматмоўная кніга Янкі Купалы стане, як і задумвалася, адной з візітовак незалежнай Беларусі.



ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ



## Ці задаволіць Вярхоўны суд скаргу Уладзіміра Някляева?

*Паэт і палітык Уладзімір Някляеў абскардзіў у Вярхоўным судзе рашэнне суда Ленінскага раёна Мінска ад 1 лістапада 2017 года, згодна з якім ён быў пакараны 10 суткамі арышту за заклік да ўдзелу ў несанкцыянаваным мерапрыемстве.*

Як паведамляла "Народная Воля", рашэнне аб арышце палітыка тады прыняла суддзя **Святлана Мятлёнак**. Як заклік на "Марш абураных беларусаў", які прайшоў 21 кастрычніка, суд расцаніў фрагмент інтэрв'ю палітыка тэлеканалу "Белсат". Тэкст інтэрв'ю быў размешчаны на заблакіраваным сёння сайце "Хартыя'97".

Прызначаны судом 10-сутачны арышт Някляеў так і не адбыў. Ён не выключае, што ўлады проста трымаюць у запасе гэты прысуд, *"каб "закрыць" мяне ў зручны момант": могуць нават арыштаваць напярэдадні мерапрыемстваў з нагоды 100-годдзя БНР 25 сакавіка".*

Вера ВІР.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Анатоль Лябедзька пахаваў маці

– Ёсць фармальнае медыцынскае заключэнне, але мае рацыю ўрач, які сказаў: «Яна стамілася жыць», *– распавёў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку".* – Пасля смерці бацькі ёй было сумна і няўтульна. Яна хацела быць з ім, і ё мара здзейснілася.

А яшчэ яна страшэнна не хацела быць валізкай без ручкі для нас, якія ўвесь час некуды спяшаюцца…

Шануйце тых, хто побач з вамі!..

*"Народная Воля" выказвае Анатолю Лябедзьку шчырыя спачуванні.*

Марына ВІШНЕЎСКАЯ.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Кнігу Шушкевіча выдадуць ва Украіне?

*Расійскія выдавецтвы патрабуюць, каб былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі змяніў свае пазіцыі па стаўленні да Крамля.*

– Не так даўно вярнуўся з Кіева, там праходзіў саміт Балта-Чарнаморскага рэгіёна, на які сабраліся былыя кіраўнікі некаторых краін, – распавёў "Народнай Волі" Станіслаў Станіслававіч. – Пасля гэтых перамоў з'явілася спадзяванне, што маю кнігу выдадуць на Украіне, хаця дакладна не магу сказаць, ці рэалізуецца гэты праект. Але ў любым выпадку адно выдавецтва ўжо ўзяло мой рукапіс для аналізу.

**– Вы маеце на ўвазе кнігу "Жыццё, распад і ўваскрашэнне"?**

– Гэта дапрацаваны варыянт, які называецца "Жыццё, распад і ўваскрашэнне", праз 25 гадоў". Зараз там ёсць у тым ліку і моманты майго спаткання з прэзідэнтам Украіны Пятром Парашэнкам. Кніга раней выдавалася ў Вільнюсе, Варшаве, Таліне, у Расіі. Праўда, цяпер у Расіі праблемы з кнігай. Тыя выдавецтвы, якія жадалі яе выдаваць у Расіі, патрабуюць, каб я змяніў свае некаторыя пазіцыі па маім стаўленні да Крамля. Я гэтага зрабіць не магу, таму шукаю іншыя магчымасці выдання, маю рукапіс рускамоўны.

**– Але і на англійскую мову кніга будзе перакладзена?**

– Так, яе збіраюцца надрукаваць у лонданскім выдавецтве. Прапанова паступіла ад англічан, калі я наведваў Оксфард, Кембрыдж і Лонданскі ўніверсітэт.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ПРАЕКТ

# Віктар БАБАРЫКА: «Гэта шанец не паўтараць памылак мінулага…»

*Напярэдадні свайго 70-годдзя нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч правядзе шэраг сустрэч з чытачамі амаль у кожным рэгіёне Беларусі.*

Днямі стала вядома, што "Белгазпрамбанк" падтрымае выданне кніг нобелеўскага лаўрэата **Святланы Алексіевіч** на беларускай мове ў рамках краўдфандынгавай кампаніі на «Вуллі» і размесціць заказ на выраб дадатковага накладу ўнікальнага пяцітомнага выдання, які будзе бязвыплатна перададзены ў кніжныя фонды ўсіх абласных і раённых бібліятэк Беларусі. Увогуле бібліятэкі атрымаюць ад "Белгазпрамбанка" 15.000 кніг Святланы Алексіевіч на беларускай мове.

*«Рэалізацыя гэтага праекта дае нам шанец не паўтараць памылак мінулага, калі лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі па літаратуры не прызнавалі і асуджалі ў роднай краіне, а ў наступным пакаленні перад імі каяліся і іх творы ўключалі ў школьныя праграмы (так было з Буніным, Пастарнакам, Салжаніцыным, Бродскім),* – гаворыць старшыня праўлення "Белгазпрамбанка" **Віктар Бабарыка**. – *Мы перакананы, што любая краіна і яе народ павінны ганарыцца дасягненнямі ў інтэлектуальнай сферы не менш, чым у спорце і працы. Таму мы хочам, каб і цяперашняе, і будучыя пакаленні беларусаў мелі магчымасць дакрануцца да прыгожага ў любым пункце незалежна ад тэхнічных магчымасцяў».*

У рамках падтрымкі праекта #NobelNaMove банк плануе ў сакавіку-красавіку арганізаваць і правесці ў кожным абласным цэнтры Беларусі адкрытыя творчыя сустрэчы з нобелеўскім лаўрэатам Святланай Алексіевіч.

*"Мы ганарымся Святланай Алексіевіч, нашым першым нобелеўскім лаўрэатам, і лічым вельмі важным для Беларусі распаўсюджваць яе кнігі на беларускай мове. Кампанія #NobelNaMove – гэта магчымасць кожнаму інвеставаць у культурную будучыню нашай краіны, у будучыню нашых дзяцей. З прыходам "Белгазпрамбанка" гэтая кампанія набывае нацыянальны характар, а кнігі Алексіевіч стануць даступныя ў кожнай бібліятэцы краіны",* – каментуе **Эдуард Бабарыка**, дырэктар па развіцці краўдфандынгавай платформы «Вулей».

Нагадаем, што краўдфандынгавая кампанія на пляцоўцы «Вулей» па падтрымцы выдання пяці кніг Святланы Алексіевіч на беларускай мове, якая стартавала 21 ліпеня 2018 года, была ініцыявана Літаратурным домам «Логвінаў».

*"Ідэя перавыдаць кнігі Святланы Алексіевіч у мяне ўзнікла яшчэ ў 2015 годзе, калі яна атрымала Нобелеўскую прэмію,* – распавядае выдавец **Ігар Логвінаў**. – *І разам з ёй мы запрасілі яркіх літаратараў, каб стварыць прынцыпова новыя пераклады, якія гучалі б на сучаснай беларускай мове. Бо мова моцна змянілася за апошнія 20 гадоў. Гэта праца забрала ў нас два гады, але яна, безумоўна, тага каштавала. Паводле слоў Святланы, гэта лепшыя пераклады кніг на мову. Хадановіч, Дубавец, Акудовіч, Пятровіч, Арлоў – гэта сучасная літаратурная школа з вельмі моцнай грамадскай і грамадзянскай пазіцыяй. Я чытаў усе пяць кніг у новым перакладзе, яны выклікаюць зусім іншыя эмоцыі і іншае ўспрыманне тэксту. Мы распрацавалі новы дызайн, вёрстку, падачу кніг і ў залежнасці ад вынікаў краўд-кампаніі будзем вызначаць, які патрэбны наклад – вялікі ці вельмі вялікі. Дзякуючы "Белгазпрамбанку" кампанія набыла нацыянальны маштаб".*

Краўд-кампанія па перадзаказе кніг з цыкла "Галасы Утопіі" будзе доўжыцца да 20 красавіка 2018 года. Узяць удзел у ёй могуць жыхары Беларусі, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, а таксама грамадзяне іншых краін.

***Плануецца, што поўны тыраж выйдзе напрыканцы мая гэтага года, да 70-годдзя Святланы Алексіевіч.***

Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# «Вы просрочили платеж…»

*Должники компании «Велком» жалуются, что им угрожают лишением родительских прав, арестом и исключением из университета. «Народная Воля» решила разобраться, как мобильный оператор в действительности взыскивает долги с клиентов.*

«В связи с отсутствием дистанционной связи к Вам запланирован выезд группы сотрудников для установления личного контакта и оценки перспективы принудительного взыскания долга». С такого СМС началось знакомство Алексея Малащука с юридической компанией ООО «Сила закона». За полгода до этого, в 2017-м, он взял телефон Huawei Nova в рассрочку на год в офисе «Велком» в городе Лунинце и каждый месяц выплачивал около 65 рублей (*на момент публикации телефон стоил около 532 рублей*. – **«Народная Воля»**). После переезда в Минск искал работу и просрочил платеж.

Компания «Велком» взыскала с клиента оставшиеся по рассрочке 451 рубль 13 копеек. Малащук погасил долг и решил отказаться от услуг мобильного оператора.

*– В офисе мобильного оператора администратор сказала, что я должен пользоваться номером минимум до окончания срока рассрочки, хоть всю сумму я уже выплатил. Что я и сделал: звонил, пользовался интернетом,* – рассказал «Народной Воле» Малащук. *– Вскоре я получил СМС от ООО «Сила закона», в которой они написали, что я все еще должник и они ко мне выезжают. К слову, их я так и не дождался. Позвонив по указанному в СМС телефону, я узнал, что юридическая компания работает от имени «Велком» и требует выплатить штраф в две базовые величины – 57 рублей – за просроченный платеж* (в 2017-м две базовые величины составляли 46 рублей. – **«Народная Воля»**).

Случай Малащука не единственный. Минчанка Юлия Говоркова взяла Samsung Galaxy A5 в рассрочку для бывшей коллеги (на момент публикации телефон стоил около 800 рублей. – **«Народная Воля»**). Про задолженность она узнала, когда ей позвонила сотрудница «Силы закона».

*– Женщина, представившаяся Ангелиной Николаевной, каждый раз угрожала, что на меня заведут уголовное дело по статье «Мошенничество» и лишат родительских прав,* – рассказала Говоркова. *– Присылали сообщения, что приедет группа сотрудников для описи и ареста имущества. Ко мне так никто и не приехал, семейные условия не оценивал. Но говорили то ли в шутку, то ли всерьез: мол, в Беларуси детей забирают при долге 400 рублей, а у вас 1000.*

У Говорковой трое маленьких детей – старшему два года.

Адвокат Игорь Степанов рассказал «Народной Воле», что, с его точки зрения, ООО «Сила закона» не имеет права предупреждать о возможности лишения родительских прав.

*– Все, что выходит за рамки гражданско-процессуального законодательства, на мой взгляд, это фантазии представителей компании «Велком». Это всего лишь предположения, не более того. В особенности что касается лишения родительских прав или постановки вопроса в уголовно-правовые рамки. Для этого необходим целый ряд иных оснований, которые не порождены отношениями между компанией «Велком» и ее клиентами,* – отметил адвокат.

Вот несколько цитат с бизнес-форумов по поводу методов работы ООО «Сила закона»: *«Сын взял телефон в кредит. Несколько дней назад позвонили из этой конторы и сказали, что готовят документы в суд за долг, документы на опись имущества и на его задержание в СИЗО. И что сыну инкриминируют три статьи по мошенничеству со сроком лишения свободы до пяти лет». «Угрожают бригадой приставов, угрожают судом. Когда должен состояться суд, если состоится, не известно, а имущество едут описывать уже на этой неделе. Разве не по решению суда имущество описывается? Самое интересное, что суд на самом деле уже был. Еще год назад». «С моего сына требуют деньги для погашения, при этом угрожая отчислением с учебы и тюремным сроком». «Идут постоянно угрозы, в срочном порядке оплату требуют, угрожают, что я Новый год проведу в СИЗО».*

**«Наша работа заключается в том, чтобы донести последствия неоплаты»**

Начальник отдела контроля качества переговоров ООО «Сила закона» **Сергей Макаров** подтвердил «Народной Воле», что между его компанией и унитарным предприятием «Велком» заключен агентский договор.

*– Мы оказываем юридические услуги по сопровождению исковых заявлений, оказываем правовую помощь по взысканию задолженности,* – рассказал Макаров. *– Согласно договору, если хотя бы один из ежемесячных платежей не поступает вовремя, то компания «Велком» на 61-й день просрочки выставляет требование на оплату всей суммы. Высылается претензионное письмо, в котором указывается срок оплаты. Если оплата не поступает, выставляется штраф, пеня и готовятся документы для подачи в суд или нотариат. После того как указанная дата просрочена, досудебной работой можем заниматься и мы. От нас такими людям поступают письма или звонки.*

Начальник отдела отметил, что если клиент не реагирует на письма и звонки компании «Велком», то «Сила закона» старается выйти с ним на связь, в том числе с помощью рассылаемых СМС о «запланированном выезде группы сотрудников».

*– На основании статьи 60 Закона об исполнительном производстве судебные исполнители имеют право получать информацию об имуществе должника,* – отметил Макаров. *– Чтобы судебный исполнитель максимально быстро мог получить информацию о том, по какому адресу можно произвести обращение взыскания на имущество, мы собираем эту информацию.*

И Малащук, и Говоркова подтвердили, что, несмотря на предупреждения, к ним никто не приезжал.

Предупреждения об аресте, лишении родительских прав и исключении из университета начальник отдела в ООО «Сила закона» угрозой не считает. Он не стал отрицать, что такие аргументы приводятся сотрудниками компании, но только чтобы информировать о последствиях.

*– Это личное восприятие человека и, скорее всего, юридическая неграмотность должника,* – прокомментировал Макаров. *– Термин «угрожать» не может быть применим к досудебному урегулированию споров. Информирование о последствиях, согласно законодательству Беларуси, не может содержать в себе угрозы. Это вопрос восприятия, насколько человек понимает, что ему говорят. Наша работа заключается в том, чтобы донести последствия неоплаты. Когда у человека есть долг, логичнее и проще погасить его в досудебном порядке. Таким образом экономятся и средства судебной системы, и время.*

*Если есть подозрения, что детей содержат в недостаточно хороших условиях, есть 81-я статья Кодекса о браке и семье, где говорится, что любой гражданин, который получает информацию о ненадлежащем содержании ребенка, обязан подать сигнал в органы опеки. Это гражданский долг любого белоруса.*

Макаров отметил, что если есть предпосылки и человек скрывается в рамках уголовного дела, то он может быть задержан.

*– Может, он рецидивист,* – рассудил Макаров. *– Если есть предпосылки для такого задержания, то почему бы не посадить его, пускай пока подождет, пока будут проводиться мероприятия. Все происходит в правовом поле. Разночтения могут быть исходя из того, насколько тот или иной гражданин юридически образован и понимает последствия превратно или объективно, адекватно.*

КОММЕНТАРИЙ ЮРИСТА

**Предупреждать об уголовных последствиях – это не их право**

Адвокат Игорь Степанов подтвердил «Народной Воле», что «Велком» может обратиться в любую компанию, которая имеет лицензию на оказание юридических услуг, но такое последствие, как, к примеру, отчисление из университета, ему как адвокату не известно.

Адвокат добавил, что, с его точки зрения, ООО «Сила закона» не имеет права предупреждать об уголовных последствиях или о возможности лишения родительских прав.

Алексей ШУНТОВ.

ДАЖЫЛІСЯ...

# Ці ж гэта не дыскрымінацыя беларускай мовы?

Я пастаянны чытач "Народнай Волі", з'яўляюся такім нават тады, калі газета была ў выгнанні.

Сёння хачу расказаць, з якой праблемай сутыкнуўся, калі карыстаўся беларускай мовай на бытавым узроўні. Спатрэбілася мне адправіць грашовы перавод у беларускі горад Віцебск. У сваім паштовым аддзяленні сувязі №104 запоўніў адпаведны бланк на роднай беларускай мове і падаў яго аператару. Яна мне заўважыла, што трэба запаўняць бланк на рускай мове, таму што яна, па-першае, беларускай мовы не ведае, і па-другое, камп'ютарнае праграмнае забеспячэнне не апрацоўвае беларускамоўныя дакументы. У рэшце рэшт перавод у мяне прынялі пасля доўгіх спрэчак і кансультацый, сказаўшы пры гэтым прозвішча атрымальніка пры перакладзе яго на рускую мову. Вось такая дыскрымінацыя беларускай мовы!

Мяркую, што праблема не ў паштовым работніку, яна крыецца значна глыбей, на дзяржаўным узроўні.

З павагай – Аляксандр Ільіч КАЎЦЭВІЧ, пенсіянер.
*Мінск.*

РЭХА

# Прыйшла ўрэшце пара сказаць людзям праўду

Паважаная рэдакцыя, хачу падзяліцца з чытачамі сваімі думкамі, навеянымі публікацыямі ў вашай газеце. Падчас вайны наша сям'я (бабуля 1872 года нараджэння, маці, бацька і тры дачушкі, старэйшай 7 гадоў) жыла на хутары Дубнікі каля вёскі Лань Нясвіжскага раёна. За гады акупацыі нас двойчы рабавалі партызаны. Прычым бацьку ставілі да сцяны пад дула вінтоўкі і забіралі ўсё: бульбу са склепа, сала, капусту, кажух, скруткі саматканага палатна, сякеру, пілу...

Пасля вайны мама ў Ланскай царкве на адной з жанчын пазнала сваю кашміравую хустку, якую ёй на вяселле падаравала маці (мая бабуля Марыя). Сын той жанчыны быў партызанам. Нічога мама не сказала, бо баялася, што могуць спаліць і пасля вайны.

Я разумею, што ваяваць і жыць у лесе было цяжка. Але вось перачытала зноў (у каторы ўжо раз) кнігу А.Адамовіча, Я.Брыля і У.Калесніка "Я з вогненнай вёскі" і злавіла сябе на думцы, што ні ад адной з яе старонак толькі зрэдку сустракаюцца звесткі, што партызаны папярэдзілі жыхароў аб аблаве ці карнай аперацыі. А вёскі ад фашыстаў не баранілі. Хоць самі карміліся з тых вёсак.

А яшчэ хачу расказаць пра немцаў. Меншая мая сястра нарадзілася дома ў 1941 годзе. Роды прайшлі цяжка, у яе на галаве засталіся гематомы. Расла дзяўчынка, і яны павялічваліся. Вясковыя знахары радзілі маме ўсякія лекі, але нічога не дапамагала.

На пачатку 1944 года мама ўрэшце рашылася і панесла дачушку ў Нясвіж, дзе быў нямецкі шпіталь. На ганку стаяў салдат з аўтаматам. Ён забраў дзіця, а маме сказаў: "Вэг! Яйкі, шпэк, бутэр!"

Усю дарогу дадому (больш за 5 км) мама праплакала: як жа, сама аднесла дзіця ворагу...

Назаўтра, сабраўшы што было з прадуктаў, зноў пайшла ў Нясвіж. Вартавы забраў прынесенае і вынес сястрычку, якой была зроблена аперацыя... Калі засталіся ў Германіі нашчадкі таго доктара, то дай ім Бог здароўя! Сястра пражыла 77 гадоў. Гэта я да таго, што і немцы ўсякія былі.

У мяне ёсць кніга Славаміра Антановіча "Ушедшие в бессмертие" (2010). Там многа архіўных матэрыялаў, але нідзе ў пастановах ЦК Камуністычнай партыі нават не згадваецца пра партызанскія злачынствы. А яны ж былі – тыя самыя спаленыя вёскі і забітыя вяскоўцы, абвінавачаныя ў супрацоўніцтве з немцамі. Столькі часу пра гэта ў нас маўчалі, прыйшла ўрэшце пара сказаць людзям праўду. Кроў людская не вадзіца...

У партызанскіх атрадах былі людзі розных нацыянальнасцяў, як і ў паліцыі. Як шэрагі, дарэчы, актыўна папаўняліся тымі, каго савецкая ўлада яшчэ да вайны зрабіла "ворагамі народа".

Дзякуй Міхасю Скоблу, які падняў такую балючую для многіх тэму. Гэта відно таксама і з тых водгукаў, якія апублікаваны ў "Народнай Волі". Мая падзяка за гэта і любімай газеце – праўдзе трэба дапамагаць.

Ірына ЖЫДКОВА.
*Мінск.*

ОЧЕНЬ ЛИЧНОЕ



# О том, чего не было

...Заселяясь, он вдохновенно наврал администратору, что во сне страшно храпит, а потому не хочет мучить соседа и готов доплатить за двухместный номер вместо одноместного. Проникновенное обращение "солнышко" и "голубушка" сделало свое дело – администратор согласилась.

В самом конце апреля контингент отдыхающих в санатории, бывшем когда-то домом отдыха столичного предприятия, на три четверти состоял из женщин – в основном провинциалок в возрасте "баба ягодка опять"; молодежи почти не было. Но даже при таком раскладе особой популярностью у женской части отдыхающих он не пользовался – возможно, отпугивала седая растительность на физиономии. Поэтому на танцевальных вечерах ему было скучно: народ предпочитал простенькие «топтушки», а на его попытки разнообразить танец элементами твиста и чарльстона поглядывал косо. Про вальс и говорить было нечего – его почти никто не танцевал.

В один из вечеров, расставшись с не очень ловкой партнершей, он отошел к длинному ряду стульев, стоящему вдоль стены, как вдруг ведущая объявила «белый» танец. Чуда он не ждал, а оно вдруг явилось. Миловидная, со вкусом одетая женщина воспользовалась возможностью избавиться от назойливого наговоратого, не совсем трезвого приставалы и быстро подошла к нему. От неожиданности он с ходу повел ее в вальсе – мелодия позволяла – и сразу понял, что держит в рамке рук идеальную партнершу: пластичную, легко угадывающую его следующее движение и готовую подхватить его. Остаток вечера они провели вместе.

После танцев, уже в номере, он пытался разобраться в своих впечатлениях. Женщины такой комплекции – крепко сбитая, хотя и не лишенная изящества, фигура – раньше его никогда не привлекали. И потом: она ровесница его сына. Кстати, а какого цвета у нее глаза? Он снова и снова восстанавливал в памяти ее лицо, как бы пристально рассматривая, – верный признак того, что она ему симпатична.

Назавтра он пресек ее попытку обращаться к нему на «вы»: «Ты меня еще дядей Степой назови...» В последующие дня три они подолгу гуляли – весна выдалась ранняя, начался май, и вечера были томно теплыми. Никогда еще он не чувствовал себя рядом с женщиной так легко: разговаривать с ней было увлекательно, он чувствовал особое вдохновение, был непринужденно остроумен. Изредка в ее голосе проскакивали жесткие нотки, выдававшие некую затаенную обиду, которую она прятала за милыми, чуть-чуть грустными шутками и смехом «с трещинками плача».

Через несколько дней у него было ощущение, что знакомы они давным-давно: им было уютно вместе, они понимали друг друга с полуслова. Когда он пригласил ее к себе, она не стала жеманничать, посмотрела ему прямо в глаза и чуть насмешливо спросила:

– Что будем делать?

– Пить коньяк, – спокойно ответил он.

К ее приходу на столе стояла бутылка неплохого армянского коньяка, два взятых в ресторане фужера и приличествующий случаю легкий перекус.

Она вошла, оглядела комнату и села на стул возле стола, поджав под себя ноги и прикрыв колени полами красивого халата. Однако за внешней уверенностью угадывались смущение и растерянность.

Он предложил тост за знакомство. Она выпила коньяк одним глотком, откусила кусочек сыра и недоуменно спросила:

– А зачем такой большой бокал?

В последние годы он стал неплохо разбираться в коньяках (взрослые дети дарили по разным поводам), считал его десертным напитком и пил по-своему. Если коньяк смаковать, то даже небольшое его количество оказывает расслабляющее действие. После второго тоста – за дружбу – она расслабилась, успокоилась, повеселела, на предложение сказать третий тост со смехом воскликнула «За любовь!» и, согревая бокал в старательно сложенных ладошках, пригубила напиток, вдыхая его аромат.

– Я и не знала, что это так здорово!

Она завозилась на стуле, чтобы сменить позу, вынуждена была встать, и он обнял ее за плечи. Их губы почти встретились, но в ее глазах мелькнули растерянность, испуг... Она резко отстранилась:

– Подожди, – голос ее дрогнул. – Понимаешь... Мне нужно преодолеть... себя.

– А ты уверена, что это нужно? – он следил за выражением ее лица. Она отвела взгляд:

– Теперь не знаю...

– Раз не знаешь, вернемся к дружбе: будем пить чай, – он повернулся к столу и включил чайник.

Этот вечер их не рассорил. Они договорились, что дружба в постели называется иначе, и, как прежде, продолжали танцевать, гулять и пить коньяк – той бутылки им хватило на четыре дня.

Их разговоры, как и раньше, не касались личной жизни. Только четко обозначилась хрупкая, как хрустальная нить, черта, которую они могли легко переступить, но оба эту нить оберегали, чтобы не разрушить так нечаянно возникшую сложную и тонкую конструкцию их отношений.

За два дня до окончания путевки у него был день рождения. Обычно на этот день он сбегал то в пущу, то в водный поход: там мысли о ходе (нет – беге) времени растворялись в походных хлопотах. В этот раз ему захотелось устроить праздник. Накануне он съездил домой, перебрал сохранившиеся черновики разных лет, из начатой на Новый год литровой бутылки COURVOISIER перелил в подходящую емкость остатки коньяка, заскочил в парикмахерскую и через сутки к вечеру вернулся в санаторий. О своей затее он ничего ей не говорил, и она удивилась, когда перед танцами увидела его на сцене с микрофоном в руках. Он минут двадцать пять читал свои "вершаваныя радкі" с короткими комментариями. Его слушали, аплодировали, и только раз, после строк про "губы неумелые, а руки очень смелые", слушатели дружно захихикали. Ведущая была довольна:

– Давно у нас не было таких хороших экспромтов. Спасибо!

После танцев они долго гуляли и говорили, говорили... Потом они пили привезенный им коньяк.

– По легенде, это любимый коньяк Наполеона, – заметил он.

– Ну ты и разошелся! – улыбнулась она.

И тогда он сказал о своем дне рождения.

Они долго смотрели друг другу в глаза. Та самая хрустальная нить, натянутая до предела, сейчас была в ее руках, и она это понимала. За окном начало светать. Он нарушил молчание:

– Я хочу тебя попросить: оставайся собой. Наша встреча была не напрасной.

– Спасибо тебе...

...Всю дорогу из санатория в Минск они молчали. Расставаясь на автовокзале – ей надо было ехать дальше, – он неожиданно для себя сказал:

– Лучше жалеть о том, чего не было, чем о том, что было.

– Какой ты умный, – вздохнула она.

– Ну, да... – пробормотал он и грустно пошутил: – Даже самому противно.

Увернуться она не успела – он поцеловал ее в уголок глаза.

Уже несколько лет они изредка перезваниваются, перекидываются ничего не значащими словами и заканчивают разговоры всегда одинаково:

– Рад был тебя слышать.

– Я тоже рада.

Недавно на привычный вопрос «Как жив-здоров?» он ответил:

– Жалею о том, чего не было.

Она среагировала мгновенно:

– Так тебе и надо!

Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Вершаваны букет для дзяўчат і кабет

**Жаночая сумачка**

Сказала мне сяброўка так:
– У сумачцы маёй – бардак.
Неразбярыха ў ёй такая,
Што муж заначку там хавае.

**Не сапсуеш і мужам**

Я думку вам цікавую падкіну...
Жанчыны ёсць халодныя,
Але ж,
Паверце мне,
Сапраўдную жанчыну
І мужам, далібог, не сапсуеш...

**Слёзы нічога не важаць**

– На вагі стала пасля свята.
Ох, як "наела" я багата!
Хапіла ўсё-такі адвагі
Зноў праз гадзіну стаць на вагі.
І мой настрой зусім благі:
У слёз маіх няма вагі...

**Жанчыны звар'яцеюць**

Ёсць, паверце мне,
Спосаб харошы,
Каб звіхнуліся разам жанчыны:
Трэба даць ім шалёныя грошы,
Зачыніўшы
Усе магазіны.

**На шпільках і ў шлёпанцах**

Сяброўкі дзве.
Адна шыбуе жвава,
Абцасікамі іскры высякае,
Такая ўся шыкоўная –
Як пава!
Другая ў шлёпанцах.
Шчаслівая такая!

**Прызнанне жонкі**

Прыйшла вясна...
Мой муж амаль што з рання
Ці ў бар ідзе,
Ці ён у рэстаране.
Патрэба
Для "паходаў" тых якая?
Мяне шукае...

**Багіня**

– За рулём багіня я,
Мне такая вольніца!
Пешаходы хрысціцца,
Пасажыры моляцца...

**Не плячо, а шыя**

Калі жанчына, нават і дзяўчо,
Гаворыць (тут сакрэту не адкрыю)
Пра цвёрдае мужчынскае плячо,
Яна на ўвазе мае толькі шыю..

**Жаночая мара**

Я мару адгадаць гатовы
Усіх жанчын:
Хоць раз адзін
Схадзіць з авоськай не ў харчовы,
А ў ювелірны магазін.

**Вачыма дзіцяці**

Паесці што
І што адзець на свята,
Усё ідзе па тэліку праграма –
Усё ў кватэры
Вырашае тата.
А хто ў нас тата,
Вырашае мама...

**Жаночая падказка**

– Мужчыны!
Вам падказачка якраз –
Яна, як кажуць,
Носіцца ў паветры:
За кілаграмы
Не судзіце нас –
Не будзем вас судзіць
За сантыметры...

**Замужам**

А добра той, што замужам жыве:
Патэльняй мужу трэсь па галаве,
Калі благое зробіць іншы раз;
І скажа штосьці ён табе ў адказ...

**Дзявочнік**

– Мілы, да сябровак я пайду,
Ты ўжо, калі ласка, выбачай.
Мы развеем там сваю нуду:
Музыка, размовы, торцік, чай...
– Годзе ляскаць пугай па вадзе!
Ведаю даўно тваіх дзяўчат.
Забірась, скажы дакладна, дзе
П'яны партызанскі ваш атрад?

**Вялікадушная**

Жанчына нам нясе святло,
З жанчынай жыць нам люба-міла:
Яна заўжды прабачыць зло,
Якое мужу прычыніла...

**Ідэальная жонка**

Я ад мудрага сябра
Пачуў нечакана
(У сямейным жыцці
Ён прафесар, лічы):
– Ідэальная жонка –
Накшталт таракана:
Бачыш толькі на кухні
Ці толькі ўначы...

МНЕНИЕ

# Курить – здоровью вредить!

Не так давно на совещании по табачному бизнесу глава государства сказал, что *«это подакцизный товар и бюджет от этого получает огромные средства, порядка 0,5 миллиарда долларов. Это большие налоговые поступления»*. Необходимо усилить борьбу с табакокурением и алкоголизмом, особенно среди подрастающего поколения (в школах, училищах, вузах), что мало запретить их рекламу, написать на упаковке «Курение вредит вашему здоровью». Если бы в магазинах этот товар сопровождался какими-либо ужастиками, то, думаю, спрос на него был бы значительно меньший, но пока в этом не заинтересован ни магазин, ни государство.

Проходя как-то после окончания занятий у студентов возле главного вуза нашей страны, я обратил внимание: над головами юношей и девушек, идущих мне навстречу, висела дымовая завеса. Почти каждый второй из них курил.

Пару лет назад мне пришлось проходить обследование в одном из медучреждений Минска. В нашей палате лежал молодой человек лет тридцати. Он жаловался врачу на свои болезни. Первым вопросом доктора был «Курите ли вы?». Услышав ответ «да», врач сказал, что, прежде чем приступить к лечению, нужно срочно бросить курить, и при этом добавил, что ему только за год приходится делать десятки операции по ампутации нижних конечностей у курящих пациентов.

В советское время в школах нашей страны этому вопросу уделялось большое внимание. Если обнаруживалось, что кто-то из школьников покуривает, то в школу вызывали родителей и серьезно с ними разговаривали. Доходило до того, что неисправимых курильщиков даже исключали из школы.

Недавно А.Г.Лукашенко, проводя встречу с вузовскими работниками, заявил, что обязательно в ближайшее время встретится со студентами гродненских университетов, и при этом просил их подготовить для встречи необходимый материал: чем сейчас живет студенческая молодежь, что их интересует, как проводят для время, в чем нуждаются и прочее. Хотелось бы, чтобы вопрос о борьбе с табакокурением и алкоголизмом во время встречи со студентами прозвучал из уст президента, и, может, стоит объявить какой-либо ближайший год годом борьбы с этим злом нашего времени.

Василий Семенович БОЛДЫШЕВ, кандидат наук.
*Минск.*

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

# Як перадаць грошы на Курапаты не праз інтэрнэт?

*У "Народнай Волі" за 23 лютага ўважліва прачытаў заметку "Дзе збіраюць грошы на Курапаты?" і маю да вас, шаноўная рэдакцыя, такую просьбу. Калі ласка, высвятліце, як яшчэ можна перадаць ахвяраванні на курапацкія крыжы, бо я чалавек ужо сталага веку, з інтэрнэтам не вельмі ў добрых стасунках, а справу неабходную падтрымаць сваёй капейчынай вельмі хачу.*

*З павагай – Георгій ТУМІЛОВІЧ.*
*Мінск.*




Мы звязаліся з кіраўніком грамадскай дырэкцыі Народнага мемарыяла "Курапаты" Алесем Чахольскім і запыталіся ў яго, як яшчэ людзі могуць перадаць сродкі на крыжы.

Ён патлумачыў, што акрамя збору сродкаў на talaka.by грошы на добраўпарадкаванне Курапатаў можна перадаць па спецыяльнай ведамасці.

Звязацца з Алесем Чахольскім і вырашыць усе пытанні можна па тэлефоне Velcom **(+375-29) 124-46-86**.

Вера ВІР.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 САКАВІКА 2018 г.

ТАМ, В ГЕРМАНИИ

# Меркель застаецца!

Падчас унутрыпартыйнага галасавання сябры Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі выказаліся за стварэнне так званай "шырокай кааліцыі" з удзелам іх партыі, ХДС і ХСС. Кааліцыю падтрымалі больш за 66% шараговых сяброў СДПГ, якія бралі ўдзел у галасаванні па пошце з 20 лютага па 2 сакавіка.

Згодна з кааліцыйнай дамовай сацыял-дэмакраты атрымаюць такую ж колькасць міністэрскіх пасад, як і хрысціянскія дэмакраты, – па шасцьб. Яшчэ тры партфелі адыдуць прадстаўнікам Хрысціянска-сацыяльнага саюза. Урад узначаліць Ангела Меркель. Усе добра разумеюць не толькі тое, што альтэрнатывы ёй сёння няма, але і тое, што гэта яе апошні тэрмін на пасадзе канцлера ФРГ.


© Reuters/M. Rehle

У тым выпадку, калі б вялікія партыі не дамовіліся, хутчэй за ўсё, былі б прызначаны пазачарговыя выбары, вынік якіх цяжка прадказаць. Вельмі верагодна, што абедзве буйныя партыі Германіі атрымалі б яшчэ менш галасоў. А гэта значыць, што магла б змяніцца палітыка не толькі самой Германіі – найбольш моцнай эканомікі Еўропы, – але і ўсяго Еўрапейскага Саюза.

У ДВУХ СКАЗАХ

***

Расійскі алігарх Алег Дзерыпаска атрымаў з другой спробы кіпрскае грамадзянства і такім чынам стаў грамадзянінам Еўрапейскага Саюза. Грамадзянства было яму нададзена як багатаму інвестару.

***

Расія адмовілася плаціць членскія ўзносы ў Савет Еўропы – міжнародную арганізацыю, у якую ўваходзяць усе краіны кантынента, апроч Беларусі. Непрыемным сюрпрызам гэта не стала: пры планаванні бюджэту Савет Еўропы не ўключыў у яго магчымыя паступленні ад Расіі, сяброўства якой было прыпынена пасля агрэсіі супраць Украіны.

***

Каля 30 асоб загінулі падчас тэрарыстычнага акта, накіраванага супраць генеральнага штаба Буркіна-Фасо і амбасады Францыі ў гэтай краіне; яшчэ 75 чалавек атрымалі раненні. Пасля 2015 года тэрарыстычныя напады ў Буркіна-Фасо – афрыканскай краіне, якая калісьці называлася Верхняй Вольтай, – адбываюцца рэгулярна.

***

У Кыргызстане прайдзе экзамен для дзяржаўных службоўцаў на веданне дзяржаўнай мовы – кіргізскай. Веды павінны будуць прадэманстраваць 30 тысяч чыноўнікаў на чале з прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам і старшынёй парламента.

***

Міністр фінансаў Ізраіля Машэ Кахлон заявіў, што яго партыя "Кулану" выйдзе з кіруючай кааліцыі, калі ўрад адкладзе разгляд бюджэту. Аналітыкі кажуць, што ў любым выпадку краіну чакаюць пазачарговыя выбары ў кнесет (парламент).

***

На пахаванні вядомага амерыканскага святара і прапаведніка Білі Грэма прысутнічалі прэзідэнт Дональд Трамп і віцэ-прэзідэнт Майк Пенс з жонкамі. Труна, у якой пахавалі Грэма, была зроблена вязнямі турмы штата Луізіяна, дзе нябожчык некалі прапаведаваў.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# Біблія Францыска Скарыны



Нямала ёсць слаўных дат, пазначаных чырвоным радком у нашай тысячагадовай гісторыі. Адна з іх – 6 жніўня 1517 года.

Менавіта ў гэты дзень «повелением и працею избранного мужа в лекарских науках доктора Франциска, Скоринина сына с Полоцька, у старом месте "Празском" быў надрукаваны «Псалтыр», які паклаў пачатак беларускаму кнігадрукаванню.

«Псалтыр» уваходзіць у склад Старога Запавету і з'яўляецца часткай Бібліі. Прызначаны для царкоўнага ўжытку, ён адначасова служыў многім людзям даступным падручнікам для навучання грамаце, быў, як трапна сказаў сам першадрукар, «детем малым початок доброе науки, дорослым помножение в науце». Таму Францыск Скарына і звярнуўся да «Псалтыра» раней, чым да іншых раздзелаў Святога Пісання, выпусціў яго ў перакладзе на агульнапрынятую тады ва ўсходніх славян царкоўнаславянскую мову, даходліва патлумачыўшы чытачам незразумелыя, устарэлыя выразы.

На сёння вядома 45 біблейскіх тэкстаў, надрукаваных нястомным палачанінам у Празе (1517–1519) і Вільні (1522–1525). І калі «Псалтыр» убачыў свет па-царкоўнаславянску, дык са старонак астатніх выданняў загучала тагачаснае жывое беларускае слова. Пасля чэшскай Бібліі 1488 г. – скарынаўская Біблія стала другім па ліку ў свеце друкаваным Святым Пісаннем, выдадзеным на народнай мове.

Францыск Скарына быў усебакова адукаваным чалавекам. У 1506 г. ён скончыў старэйшы ў Польшчы Кракаўскі ўніверсітэт, дзе атрымаў ступень доктара вольных мастацтваў, а ў 1512 г. бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце ў Італіі. Дасягнуўшы вышэйшых вучоных званняў, «Скоринин сын с Полоцька» найперш імкнуўся падзяліцца сваімі ведамі з суайчыннікамі. Невыпадкова ў «Малой падарожнай кніжыцы» віленскага выпуску ў раздзеле «Святцы сціслыя» сустракаюцца падрыхтаваныя ім дакладныя астранамічныя і каляндарныя звесткі: напрыклад, як рухаюцца на небе сузор'і, калі чакаюцца сонечныя і месячныя зацьменні, якая працягласць дня і ночы ў кожным месяцы.



У асобе Францыска Скарыны талент дасведчанага вучонага, мудрага асветніка і вялікага патрыёта роднай зямлі шчасліва спалучыўся з талентам выдатнага паэта і мастака. У яго Біблii змешчана 51 ілюстрацыя, а таксама мноства віньетак-«заставіц» і загалоўных літар, ці ініцыялаў, як яшчэ іх называюць. «Тая зграбнасць малюнка, тое майстэрства гравюры, якія на кароткі час праблiснулі ў венецыянскіх і скарынаўскіх выданнях, ніколі ўжо больш не паўтараліся ў ніводным выданні царкоўнаславянскага друку на працягу ўсёй другой паловы XVI стагоддзя, усяго XVII і першай паловы XVIII стагоддзя», – узнёсла сцвярджаў вядомы рускі мастацтвазнавец Уладзімір Стасаў. І сапраўды: Скарынавы друкі – неперайздзеныя ўзоры мастацтва кнігі. А сапраўднае мастацтва, як вядома, непадуладна часу. Асабліва нас, нашчадкаў славутага палачаніна, хвалююць яго гравюрныя партрэты, што ёсць у кнігах «Ісус Сірахаў» (1517) і «Царствы» (1518).

Мы бачым Францыска Скарыну, апранутага ў доктарскую мантыю, у рабочым кабінеце, перад разгорнутым рукапісам, з пяром у руцэ. Побач – пераплеценыя кнігі, глобус, пясочны гадзіннік, выява пчалы… Мы заспелі асветніка за працай. Ён толькі-толькі скончыў пісаць чарговую «Прадмову» і гатовы прачытаць напісанае нам. Дык давайце паслухаем і запомнім на ўсё жыццё яго простыя, святыя словы:

«Звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і ім падобныя бароняць вуллі свае; так і людзі – дзе нарадзіліся і ўзгадаваны па Божай міласці, да таго месца вялікую ласку маюць…»

ФАУНА

# Мільярды людзей і яшчэ паўтара мільёна пінгвінаў!

Суперкалонію пінгвінаў Адэлі, якая налічвае больш за паўтара мільёна птушак, паводле звестак вядомага амерыканскага навуковага часопіса Nature Scientific Reports, зафіксавалі ў Антарктыдзе амерыканскія спутнікі. Выявілі гэтую калонію дзякуючы памёту, якога гэтыя птушкі вядзяляюць столькі, што яго бачна нават з космасу.

Адэлі – від пінгвінаў, апісаны яшчэ ў XIX стагоддзі французскім падарожнікам і навукоўцам Жоржам Дзюмон-Дзюрвілем і названы ім у гонар сваёй жонкі Адэлі. Калі ўлічыць, што дагэтуль папуляцыя пінгвінаў Адэлі налічвала менш за 3 мільёны птушак, можна сказаць, што адкрыццё такой колькасці асобін – сапраўдная падзея ў свеце арніталогіі.

Пінгвіны Адэлі сёння – адны з найбольш папулярных персанажаў дзіцячай мультыплікацыі. Мала хто з сучасных дзяцей не бачыў іх у серыі мультфільмаў "Мадагаскар", "Прыгодах пінгвінаняці Лало" ці "Рабі ногі!". Пінгвін Адэлі з'яўляецца таксама часткай лагатыпа аперацыйнай сістэмы Linux.



ІХ НОРАВЫ

# Каралеўскае вяселле ўжо хутка



Стала вядома, каго запрасілі прынц Гары і яго нявеста Меган Маркл на сваё вяселле, якое адбудзецца 19 мая ў Віндзорскім палацы. Усяго запрошана 2640 чалавек. Большасць – звычайныя брытанцы. Гэта 1200 шараговых грамадзян Брытаніі рознага ўзросту і паходжання, 200 супрацоўнікаў дабрачынных арганізацый, 610 сяброў супольнасці Віндзорскага палаца, 530 супрацоўнікаў каралеўскага двара, 100 школьнікаў з Віндзора і наваколля. Цырымонію вянчання правядзе кіраўнік англіканскай царквы архіепіскап Кентарберыйскі Джасцін Уэлбі.

Не ўсе запрошаныя будуць прысутнічаць пры вянчанні. Капліца Святога Георгія, дзе яно адбудзецца, змяшчае не больш за 800 асоб. Зразумела, што сярод іх будуць члены каралеўскай сям'і, а таксама ганаровыя госці. Увечары бацька жаніха, спадкаемца брытанскага прастола прынц Чарльз, дасць урачыстую вячэру ў гонар маладых для сям'і і найбліжэйшых сяброў Гары і Меган.

12 сакавіка маладыя возьмуць удзел у афіцыйных мерапрыемствах з нагоды Дня Садружнасці, дзе Меган Маркл упершыню публічна будзе побач з каралевай Лізаветай II – бабуляй свайго нарачонага. Гэта таксама будзе першая цырымонія, дзе каралеву не будзе суправаджаць яе супруг, герцаг Эдынбургскі, які адмовіўся ад выканання афіцыйных прадстаўніцкіх абавязкаў.

ПАДЗЕЯ

# «Оскары» ўручаны за фантастыку, Чэрчыля, гісторыю транссексуала і расійскі допінг



Адбылася галоўная падзея кінематаграфічнага года, якой заўжды чакае ўвесь свет, – традыцыйнае ўручэнне прызоў Амерыканскай кінаакадэміі.

Як і чакалася, найбольш "Оскараў" на гэты раз атрымаў фантастычны фільм Гільерма дэль Тора "Форма вады" – чатыры статуэткі, у тым ліку за лепшую стужку і за рэжысуру.

Прыз за лепшую мужчынскую ролю пайшоў Гэры Олдману, які бліскуча сыграў Уінстана Чэрчыля ў стужцы "Цёмныя часы". Паколькі Олдману прыходзілася кожны дзень здымак цярпець, пакуль яго тры гадзіны грымiравалі, узнагароду можна лічыць цалкам заслужанай.

Лепшай актрысай прызнана Фрэнсіс Макдорманд, якая сыграла галоўную ролю ў фільме "Тры білборды на мяжы Эбінга, Місуры" рэжысёра Марціна МакДона.

Лепшым фільмам на замежнай мове стала стужка чылійца Себасцьяна Лелія "Фантастычная жанчына", у якой распавядаецца гісторыя транссексуала.

А вось прыз за лепшую дакументальную стужку атрымала праца Браяна Фогеля "Ікар" – дакументальнае расследаванне расійскага допінг-скандалу. Фогель прысвяціў сваю ўзнагароду Рыгору Родчанкаву, былому кіраўніку Маскоўскай антыдопінгавай лабараторыі, чые сведчанні і сталі падставай усёй гэтай сумнай гісторыі.

СТАЛА ВЯДОМА

# Пхеньян удасканаліў свае ракеты падчас Алімпіяды

Як даведалася амерыканская разведка, падчас Алімпійскіх гульняў у Пхёнчхане Паўночная Карэя працягвала працаваць над удасканаленнем сваёй атамнай зброі. За гэты час Пхеньян паспеў палепшыць механізм кіравання сваімі ракетамі і працуе зараз над удасканаленнем рухавікоў і боегаловак.



У апошні раз выпрабаванні ракеты адбыліся ў Паўночнай Карэі ў лістападзе 2017 года. Але ж пасля гэтага Пхеньян пачаў перамовы з Паўднёвай Карэяй наконт сумеснага ўдзелу ў Алімпіядзе і выступлення спартсменаў пад агульным сцягам.

Гэта было ўспрынята і Злучанымі Штатамі як вельмі добры сігнал з боку Пхеньяна, таму нават былі адкладзены сумесныя вучэнні амерыканскай і паўднёвакарэйскай армій. Зразумела, што інфармацыя амерыканскай разведкі зараз ізноў наблжае да абвастрэння сітуацыі на Карэйскім паўвостраве.

СТРАТА

# Мы больш не пачуем гэтага дзіўнага голасу

На 82-м годзе жыцця памёр адзін з найбольш вядомых літоўскіх спевакоў – народны артыст Літвы і Савецкага Саюза Віргіліюс Нарэйка. Хлопец з Шаўляя, мяккі тэнар дазволіў выконваць найбольш складаныя партыі сусветнага опернага рэпертуару, пасля стажыроўкі на сцэне вядомага тэатра "Ла Скала" ў Мілане выступаў у Аўстрыі, Даніі, Фінляндыі, Перу, Чылі, Францыі, Швецыі. Сярод выкананых ім роляў – Ленскі ў "Яўгеніі Анегіне" Чайкоўскага, Пінкертон у "Мадам Батэрфляй" Пучыні, Атэла, Альфрэд і Герцаг у операх Вердзі, вядучыя тэнаровыя партыі ў операх літоўскіх кампазітараў.

Шмат гадоў ён кіраваў Літоўскім тэатрам оперы і балета, выкладаў у Літоўскай кансерваторыі. Ягонай творчасці быў прысвечаны фільм, аб ім выдаваліся кнігі.

Віргіліюса-Кястуціса Нарэйкі больш няма. Цяпер гэты дзіўны голас мы зможам пачуць толькі ў запісе…



Народная Воля http://www.nv-online.info
6 САКАВІКА 2018 г.

АФІЦЫЙНА




# Добрыя лекі – толькі ў ліцэнзаваных аптэках

*Міністэрства аховы здароўя Беларусі запатрабавала выключыць з ужывання назвы аптэк, якія не адпавядаюць пазначаным у ліцэнзіі і пасведчанні аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Пра гэта гаворыцца ў лісце ад 23 лютага да юрыдычных асоб, падпісаным міністрам Валерыем Малашкам і апублікаваным на афіцыйным сайце Міністэрства аховы здароўя.*

У ведамстве звярнулі ўвагу, што ў краіне павялічылася колькасць аптэк з такімі назвамі на шыльдах і ў светлавой рэкламе, як «Аптэка ашчадных», «Любімая аптэка», «Доктар А», «Доктар До», «Еўрааптэка», «Альфа-аптэка», «Клапатлівая аптэка», «Добрыя лекі», «Аптэка нізкіх цэн», «Аптэка аптовых цэн».

На думку Міністэрства аховы здароўя, *«гэта ўводзіць у зман насельніцтва і прыводзіць да звароту грамадзян». «Выкарыстанне такіх таварных знакаў супярэчыць закону «Аб абароне правоў спажыўцоў» і не адпавядае патрабаванням належнай аптэчнай практыкі пастановы Міністэрства аховы здароўя ад 27 снежня 2006 года № 120»*, – гаворыцца ў лісце.

У ім паведамляецца, што юрыдычныя асобы з ліцэнзіяй на фармацэўтычную дзейнасць пры размяшчэнні інфармацыі для насельніцтва, у тым ліку ў інтэрнэце, павінны выкарыстоўваць толькі назву арганізацыі, пазначаную ў ліцэнзіі і ў пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі.

Міністэрства аховы здароўя з улікам меркавання Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю таксама звяртае ўвагу «на недапушчальнасць размяшчэння ў аптэках, інтэрнэце (на сайце tabletka.by і інш.) інфармацыі пра зніжэнне цэн на лекі і дадзеныя на іх скідкі».

*«Кіраўнікам арганізацый, у назве якіх выкарыстоўваюцца таварныя знакі, якія не адпавядаюць назвам, пазначаным у ліцэнзіях на ажыццяўленне фармацэўтычнай дзейнасці, неабходна ў тэрмін да 15 сакавіка 2018 года падаць у Міністэрства аховы здароўя інфармацыю аб прынятых мерах па выключэнні такіх назваў»*, – запатрабавала Міністэрства аховы здароўя.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Дзе купіць дазіметр?




У рэдакцыю звярнуўся чытач з Полацка Сяргей Іванавіч Сухоцкі, які пацікавіўся, дзе ў Беларусі можна набыць звычайны бытавы дазіметр.

*"Не трэба блытаць дазіметр і радыяметр*, – тлумачыць экалагічны партал greenbelarus.info. – *Нярэдка іх выкарыстоўваюць як сінонімы, але на самай справе дазіметр паказвае назапашаную дозу іанізуючага выпраменьвання, а радыяметр – магутнасць дозы ў канкрэтны момант у канкрэтнай кропцы вымярэння. У Беларусі добра вядомы тры вытворцы дазіметраў: ТАА "Полимастер", навукова-вытворчае ўнітарнае прадпрыемства "Atomtex" і ААТ "Амкадор-Белвар".*

На сайтах гэтых прадпрыемстваў ёсць кантакты магазінаў, дзе можна атрымаць усю неабходную інфармацыю па кошце і функцыянальных здольнасцях дазіметраў і купіць неабходны тавар. Але спецыялісты адзначаюць, што "вельмі добрыя водгукі пакупнікі пакідаюць аб прадукцыі "Полимастера".

*"У цэлым, аналізуючы розныя тэсты бытавых "дазіметраў", кідаецца ў вочы высокая пагрэшнасць большасці мадэляў*, – піша экалагічны партал. – *Нярэдка яны паказваюць фон у паўтара разу вышэйшы звычайнага ўзроўню. Сюды можна таксама дадаць нізкую адчувальнасць і хуткасць "спрацоўвання". На практыцы гэта азначае, што ў кожнай кропцы вымяраемай прасторы дазіметр неабходна трымаць дастаткова доўга, каб убачыць змены ўзроўню, альбо пераканацца, што змяненняў няма. Таму варта канстатаваць, што большая частка недарагіх дазіметраў – гэта простыя індыкатары, якія могуць паказваць узровень радыяцыі недакладна. Акрамя таго, запомніце – ніякім бытавым дазіметрам немагчыма вымераць узровень радыеактыўнасці ў прадуктах харчавання. Для такой праверкі патрэбны спецыяльныя апараты, якія выкарыстоўваюцца ў адпаведных лабараторыях".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# Заманить и уничтожить

## О позорно-трагической судьбе В.Ф.Шаранговича

*Леон Менке, о приключениях которого в СССР я рассказывал в «Народной Воле» (№99 за 15 декабря прошлого года), действительно хорошо знал своего земляка Василия Фомича Шаранговича, который участвовал в формировании диверсионных отрядов на территории Польши вместе с В.Коржом и К. Орловским. В ходе одной операции его арестовали польские власти и приговорили к смертной казни, которая была заменена 20-летним тюремным заключением. Через 18 месяцев его обменяли, и в СССР ему вручили высшую награду – орден Красного Знамени и почетное оружие.*

*С октября 1930 года он второй секретарь ЦК КП(б)Б, а через полгода его назначают членом Комиссии партийного контроля при ЦК ВКП(б). А затем он становится председателем такой же комиссии в Казахстане. С марта 1937 года Василий Шарангович снова на родине, уже в должности первого секретаря ЦК КП(б) Беларуси. Но 29 июля того же года его освободили от этой должности, арестовали как польского шпиона и приговорили к расстрелу.*

*Мог ли В.Ф.Шарангович избежать печальной участи? Не берусь однозначно ответить на этот вопрос, но то, что до последнего времени официальная пропаганда очень многое об этом человеке скрывала, – бесспорный факт.*



…Под видом активной разведки Советский Союз проводил на территории Польши подрывную деятельность, все еще надеясь поднять вооруженное восстание и свергнуть «буржуазно-помещичье» правительство Польши. Но к 1924 году стало ясно, что ни рабочие, ни крестьяне не собираются восставать. Активная разведка не принесла ожидаемых результатов. Диверсионные отряды были разгромлены, и руководство ГПУ СССР решило свернуть их деятельность. Если Василию Коржу, Кириллу Орловскому и другим удалось скрыться от преследования польской полиции на территории СССР, то В.Ф.Шаранговичу, такому же организатору диверсионных отрядов, пришлось предстать перед польским судом. За совершенные злодеяния (убийства и диверсии), как уже отмечалось, его приговорили к смертной казни. Но в демократической Польше даже таким преступникам, как Шарангович, сохраняли жизнь – смертную казнь заменяли на 20-летнее тюремное заключение. Примерное поведение и отказ от прокоммунистической деятельности давали шанс на досрочное освобождение. Мне известны такие примеры, и я их привожу в книге «Записки западного белоруса» (2007).

Чтобы спасти своих агентов, органы ГПУ практиковали аресты католических священников, предназначенных для обмена. Путем такого обмена В.Ф.Шарангович вскоре получил свободу. В СССР его наградили орденом Красного Знамени и почетным оружием. Так высоко советская власть оценила его диверсионную деятельность: убийства польских полицейских и служащих, поджоги и грабежи имений и другое.

Шел 1934 год. Польские газеты писали, что Страна Советов превратилась в страну безумцев (Państwo wariatow). Покажем это на примере XVII съезда ВКП(б). В списке делегатов съезда от Беларуси были Голодед, Уборевич, Червяков и Шарангович. Выступает наш герой: «Первое, что мы привезли показать, дорогой наш наставник, – это нашу винтовку «Снайпер»…» Последовали бурные аплодисменты, крики «ура!». Сталин вскинул винтовку, прицелился. В зале – овация.

Думал ли в те минуты Шарангович, что пройдет всего три года и его самого возьмут на прицел? Вот как описываются в документальной литературе его последние месяцы жизни.

В марте 1937 года В.Ф.Шарангович становится первым секретарем ЦК КП(б)Б. В один из дней ближе к обеду в кабинете раздался резкий звонок. Он посмотрел на красный телефон с гербом и почему-то вздрогнул. Звонок был из Москвы. Василий Фомич с волнением взял трубку. На проводе был секретарь приемной вождя Поскрёбышев.

– Здравствуйте, Василий Фомич! Вас вызывает завтра к себе Сталин, – коротко сказал он, и связь оборвалась.

Обращение по имени и отчеству Шаранговича несколько успокоило. В «других» случаях его назвали бы просто «товарищем». Вечерним поездом он выехал в Москву…

Когда Шарангович из приемной Поскрёбышева вошел в кремлевский кабинет вождя, к его удивлению, там уже присутствовали Молотов, Ворошилов, другие члены Политбюро. Его поразил длинный стол, метров тридцать, на полу большущий ковер. Окна были завешены тяжелыми белыми гардинами. За столом председательствовал Маленков. Обсуждались будущие перемены в белорусском руководстве, в частности, судьба Голодеда и Червякова. По каждому приняли отдельное решение. Так бесцеремонно кремлевские вожди решали судьбу Беларуси.

Впереди был XVI съезд КП(б)Б. Предчувствуя напряженную обстановку на съезде, В.Шарангович попросил Сталина, чтобы тот его принял отдельно. Они беседовали тогда где-то с полчаса, не больше. Под конец разговора Сталин спросил:

– Польский язык, шляхетский, хорошо знаете?

– Для иностранцев в чужом языке нет предела совершенствования, – последовал ответ вождю.

– Почаще ходите в костел!

– Куда?! – удивленно переспросил Шарангович.

– Я же не призываю вас там молиться, – улыбнулся Сталин, – но имейте в виду: ксендзы и все прочие проповедники четко и грамотно произносят свои молитвенные речи. Польские коммунисты ходили в костелы, чтобы хорошо освоить язык.

В конце беседы Шарангович попросил Сталина прислать в Минск представителя ЦК ВКП(б).

– Никого посылать не будем. Мы вам доверили республику, так неужели не доверим проведение съезда? Справитесь сами…

10 июня 1937 года в 6 часов вечера в Минске открылся XVI съезд КП(б)Б. В президиум избрали Шаранговича, Волковича, Бермана, Червякова. Всего – 23 человека. Голодеда среди них не было. Обстановка на съезде была напряженно гнетущей. Со вступительным словом выступил В.Шарангович: *«Мы должны уничтожить до конца остатки японо-немецких и польских шпионов и диверсантов, остатки троцкистско-бухаринской и националистической падлы, раздавить и стереть в порошок, как бы они ни маскировались, в какую бы щель они ни прятались.* ***Смерть этим гадам и предателям нашей родины!..»*** Ах, Василий Фомич, старый и опытный подпольщик! Какую неразумную речь ты держишь перед делегатами съезда! Где твое былое мужество? Почему ты так струсил и стараешься выслужиться перед кремлевским палачом? Ведь тебе уже известны полные гражданского мужества слова Осипа Мандельштама:

*Мы живем, под собою не чуя страны,*

*Наши речи за десять шагов не слышны,*

*А где хватит на полразговорца, –*

*Там припомнят кремлевского горца.*

Да к тому же непростительно именовать лучших сынов и дочерей Беларуси – репрессированных писателей, поэтов, учителей и других деятелей белорусской культуры – «националистической *падлой»*. Мог бы подобрать для своей речи другие выражения…

А тем временем машина террора набирала обороты. 11 июня 1937 года в «Правде» и других газетах было опубликовано сообщение Прокуратуры СССР: *«Дело арестованных органами НКВД в разное время Тухачевского, Якира, Уборевича, Корка, Эйдемана, Фельдмана, Примакова и Путна расследованием закончено и передано в суд. Арестованные обвиняются в нарушении воинской обязанности (присяги), измене родине, измене народам СССР, измене РККА…»* Вот эта маниакальная подозрительность вождя по отношению к своим генералам и маршалам привела к тому, что потом он полностью утратил здравомыслие при оценке грядущей опасности со стороны Германии.

Во второй половине рабочего дня съезда под бурные аплодисменты делегатов Василий Шарангович внес предложение: «*Потребовать применения высшей меры наказания предателям*». За резолюцию о предании суду предателей родины, трижды проклятых, ненавистных шпионов, фашистских разведчиков (клевета на Тухачевского), и применении к ним высшей меры наказания съезд проголосовал единодушно. Делегаты разъехались проводить «линию партии» на предприятиях, в колхозах, казармах…

Шарангович с лихвой оправдал доверие Сталина. А мог и застрелить «кремлевского горца», оставаясь с ним тет-а-тет в кабинете. Повод был, все его товарищи по партии – польские коммунисты – уже были репрессированы. Разговор Сталина о «польском шляхетском языке» его не насторожил, а, наоборот, успокоил и ввел в заблуждение. Замечу: он мог бы, как опытный подпольщик, тайно покинуть Минск, без особого труда перейти советско-польскую границу и с покаянием, как «блудный сын», вернуться в свою родную деревню Коганы. Со своей гражданской женой А.С.Генфер он не был расписан. Возможно, и ей не пришлось бы 15 лет провести в лагерях. Я абсолютно уверен, что с территории Польши он мог бы наносить болезненные удары по кремлевскому палачу и его режиму.

Но все эти «закаленные и смелые» подпольщики, герои гражданской войны и другие идейные коммунисты почему-то, как загипнотизированные кролики, добровольно прыгали в пасть удава. Через четыре месяца после XVI съезда КП(б)Б Шаранговича лишают всех регалий и арестовывают как польского шпиона (и как «знатока польского шляхетского языка»). В литературе подробно описаны эти печальные (и страшные) судебные процессы-спектакли сталинской режиссуры. Я ограничусь только некоторыми их стенограммами с участием Шаранговича уже как подсудимого. Вот одна из них:

«***Вышинский.*** *Подсудимый Шарангович, вы подтверждаете ваши показания, которые дали на предварительном следствии?*

***Шарангович.*** *Полностью подтверждаю. Позвольте мне все рассказать последовательно. Предателем родины я стал в августе 1921 года и был им до ареста.*

***Вышинский.*** *Подсудимый Бухарин, вы признаете себя в шпионаже?*

***Бухарин.*** *Я не признаю.*

***Вышинский.*** *У вас имелась группа ваших соучастников, заговорщиков из Беларуси, возглавляемая Голодедом, Червяковым, Шаранговичем? Правильно, Шарангович?*

***Шарангович.*** *Правильно.*

***Вышинский.*** *И по директиве Бухарина и Рыкова, под их руководством вы связались с польской разведкой и польским генштабом? Правильно, Шарангович?*

***Шарангович.*** *Совсем правильно.*

***Вышинский.*** *Значит, кто был организатором шпионажа, которым вы занимались?*

***Шарангович.*** *Рыков, Бухарин.*

***Вышинский.*** *Значит, они были шпионами, так же как…*

***Шарангович.*** *…как и я сам».*

Вот вам и «герой» партизанской борьбы против поляков и своих же белорусов, служивших в польской полиции или в других ее учреждениях. Сколько жизней он загубил!

Приведу еще одну показательную стенограмму московского процесса.

«***Бухарин.*** *Гражданин прокурор утверждает, что я наравне с Рыковым был одним из крупнейших организаторов шпионажа. Какие доказательства? Показания Шаранговича, о существовании которого я даже не слышал до обвинительного заключения. Мне предъявляется контекст показаний Шаранговича, из которых выходит, что я почти что не вырабатывал вредительский план…*

***Шарангович.*** *Бросьте врать хоть один раз в жизни. Врете вы и сейчас, на суде.*

***Председательствующий.*** *Подсудимый Шарангович, не мешайте.*

***Шарангович.*** *Я не мог выдержать».*

На что надеялся Шарангович, выступая на суде как «подсадная утка» НКВД, плетя напраслину на своих товарищей, свидетельствуя об их шпионской деятельности, возводя напраслину? Но продолжим читать стенограмму.

«***Вышинский.*** *Подытожим кратко: в чем вы себя в целом признаете виновным по этому делу?*

***Шарангович.*** *Во-первых, что я предатель Родины.*

***Вышинский.*** *Старый польский шпион.*

***Шарангович.*** *Во-вторых, я заговорщик. В-третьих, я непосредственно проводил вредительство.*

***Вышинский.*** *Нет. В-третьих, вы непосредственно один из главных руководителей национал-фашистской группы в Беларуси и один из активных участников правотроцкистского антисоветского блока.*

***Шарангович.*** *Правильно. Потом я лично проводил вредительство.*

***Председательствующий Ульрих.*** *Организатор террористических актов против руководителей партии и правительства?*

***Шарангович.*** *Верно.*

***Ульрих.*** *Все это я делал в целях…*

***Шарангович.*** *И все это я делал в целях свержения советской власти, в целях победы фашизма, в целях поражения Советского Союза в войне с фашистскими государствами.*

***Ульрих.*** *Идя на расчленение СССР, отделение БССР, преобразование ее…*

***Шарангович.*** *…преобразование ее в капиталистическое государство под ярмом польских помещиков и капиталистов.*

***Ульрих.*** *У меня нет больше вопросов».*

В своем последнем слове Шарангович сказал: «*Граждане судьи! Я не собираюсь защищать себя. Я совершил мерзостные, подлые, тяжкие преступления перед страной и народом. И хорошо понимаю, что вынужден нести полную ответственность за них перед пролетарским судом. Я изменил своей Родине и как предатель не заслуживаю никакой пощады…*»

Чем объяснить такое странное поведение? Ведь в те годы еще не было специальных психотропных средств. Почему он и другие подсудимые не заявляли на открытых процессах о своей невиновности, зная, что их ждет расстрел? Неужели они, как об этом я писал ранее, поддавались уговорам следователей, что «так нужно для партии»?

Весь этот спектакль юридического абсурда кажется невероятным. Но ведь не только простые рабочие и полунищие колхозники требовали наказания «польских шпионов». «Содействием всему миру, всему прогрессивному человечеству будет уничтожение бухариных, рыковых, ягод, шаранговичей», – заявил на митинге в Витебском пединституте один из преподавателей. Ему долго аплодировали. Вот до какого уровня духовной деградации и дикого произвола низвела великую Россию партия большевиков.

В заключение приведу выдержку из книги С.Антоновича: «*Соня Червякова жила в одном доме с Валей Голодед. В один из дней зашла к своей подруге, как раз по радио началась трансляция процесса по «правотроцкистскому блоку». На допросе показания давал Шарангович. Он говорил о подпольном антисоветском центре заговорщиков, который возглавляли «шпионы и национал-фашисты» Николай Голодед и Александр Червяков, об их подрывной, враждебной работе, диверсиях. Обнявшись, дочери ушедших полгода назад на тот свет отцов плакали навзрыд, до истерики…*

*– Да, мы понимаем, его заставили. Может, мучили. Но тех слов не простим ему, покуда будем жить. Не сможем. Никогда! – признались Соня и Валя…*»

Скажу от себя. Когда я иду по улице Шаранговича в Минске, невольно в голову лезет такая мысль: за какие такие «подвиги» белорусские власти решили увековечить бесславную жертву сталинского террора?

**Иван Петрович ДАНИЛОВ, профессор.**

НЕСТАНДАРТ



# Дзяніс ДАШКЕВІЧ: «У Побалава магу і прэзідэнту скласці канкурэнцыю»

*Роўна год таму ў невялікім аграгарадку Побалава адбылася вялікая падзея: у мясцовы Цэнтр культуры прыехаў новы дырэктар. І не хто-небудзь, а "галоўны апазіцыянер Рагачова" Дзяніс Дашкевіч. Пра яго "Народная Воля" пісала ў мінулым ліпені.*

*Цэлых дзесяць гадоў гэты таленавіты баяніст, выпускнік Гомельскага музычнага вучылішча, не мог уладкавацца па спецыяльнасці. Куды б ні прыходзіў Дашкевіч, адказ быў аднолькавы: "З вашымі поглядамі вам тут няма чаго рабіць". А на хвалі сумнавядомага дэкрэта №3 хлопца ўвогуле запісалі ў "дармаеды". Сітуацыя змянілася толькі пасля візіту ў Рагачоў намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Пасля эмацыянальнага маналога Дашкевіча Максіму Рыжанкову нічога не заставалася, як даручыць мясцовым чыноўнікам працаўладкаваць грамадскага актывіста.*

*Што змянілася за гэты час у ціхім Побалава і ці не згас творчы імпэт у маладога кіраўніка? Мы звязаліся з Дзянісам Дашкевічам, каб даведацца, як прайшоў яго першы дырэктарскі год.*



– Што новага? Дык амаль усё, – *па дарозе на чарговы канцэрт расказвае самы малады кіраўнік раёна. Праўда, знайсці час нават на звычайную тэлефонную размову яму няпроста. Мерапрыемствы, нарады, выступленні: калі твой клуб лепшы, пра вольныя хвіліны можна забыць.*

– Па платных паслугах мы першыя ў раёне. У мінулым годзе план выканалі на 146 працэнтаў, сёлета будзе яшчэ больш. Снежань і люты ўжо "закрылі" з плюсам, – *Дашкевіч свядома кажа "мы" і не забывае падкрэсліваць, што поспехі сумесныя. Калектыў у Дзяніса па-ранейшаму невялікі, усяго сем чалавек. Затое новы, малады.*

– Я зразумеў, што без жорсткай кадравай рэформы нічога не атрымаецца. Таму былым калегам даў спакойна дапрацаваць да пенсіі, а некаторых і ўвогуле мусіў звольніць. Але такое жыццё... Затое цяпер у нас на сто працэнтаў новая каманда аднадумцаў.

**– А з заробкам як?**

– А які можа быць заробак у нашай сферы? У мяне чыстымі атрымліваецца трошкі менш за 500 рублёў. Малавата, але круцімся, жывём.

**– У клубе з ранку да ночы?**

– Можна сказаць, што тут і жыву. Але што зробіш? Мерапрыемствы адно за другім, у пятніцу-суботу дыскатэка. Бывае, што і без выхадных працую.

## «Кампліменты кажуць часта, але муж я верны»

*Увогуле, пра адпачынак і нармальны сон Дзяніс зараз можа толькі марыць: у 2017-м у нашага героя нарадзілася дачушка. Але і гэта не ўсё. Цяпер Дашкевіч яшчэ і студэнт. Паступаць ва Універсітэт культуры яму параілі ў раённым аддзеле ідэалогіі:*

– Першую сесію здаў удала. Я студэнт факультэта сацыяльна-культурнай дзейнасці. Гэта значыць, што са мной у групе такія ж, як і я, дырэктары клубаў ды супрацоўнікі аддзелаў культуры.

*У Побалава, дарэчы, цяпер не проста Цэнтр культуры, а "Забаўляльны цэнтр Cruiz". Новая назва – яшчэ адзін маркетынгавы ход маладога дырэктара. За тым, што адбываецца ў клубе, можна сачыць і анлайн: "ВКонтакте" Дашкевіч стварыў афіцыйную групу "Круіза". Падпісчыкаў пакуль няшмат, каля чатырохсот. Праўда, калі ўлічыць, што ў аграгарадку жыве ўсяго каля 700 чалавек, – лічба не такая і маленькая.*

– Цяпер у нас іншая праблема – як усіх змясціць. На канцэрты стала прыходзіць яшчэ больш людзей. Народу падабаецца, прыемна.

**– І на дыскатэках па-ранейшаму аншлаг?**

– На Новы год прыйшло 400 чалавек! Для Побалава гэта вельмі шмат, але стараемся. У раёне толькі ў нас ёсць жывая музыка. Увесь час думаем, як утрымаць людзей, як іх здзівіць.

**– Стыпендыят спецыяльнага фонду прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі нейкім чынам там сябе праяўляе?**

– Ой, я ўжо і забыўся на гэта. Але так, на дыскатэках спяваю. Ды і пра баян не забываю. Але іграю толькі на канцэртах.

**– Кошт квіткоў на дыскатэку не плануеце падняць? Усё ж такі адзін рубель – гэта неяк нават смешна.**

– Я лічу: лепш, калі за адзін рубель да нас прыйдзе дзвесьце чалавек, чым за тры рублі – сто. Вельмі важна, каб была менавіта масавасць. У пустой зале што за танцы?



**– Дзяніс, а чаму ў тым жа "ВКонтакте" ваш асабісты статус – "*у актыўным пошуку*"? Таксама маркетынгавы ход?**

– Так гэта яшчэ да шлюбу было. Трэба, дарэчы, выправіць. А дзяўчаты і без таго ўвагу звяртаюць і кампліменты часта кажуць. Прыемна, канешне, але муж я верны.

## Новая мэта

**– Што лічыце сваім галоўным дасягненнем за першы працоўны год?**

– У нас, нарэшце, атрымалася зламаць стэрэатып, што сельскі дом культуры – гэта месца для бабуль, якія тут вяжуць і вышываюць. Цяпер гэта сапраўдны маладзёжны клуб. Прыжыліся камп'ютарныя і гукарэжысёрскія гурткі. Людзі ў нас спяваюць, выступаюць. Зараз у мяне новая мэта: адкрыць студыю камп'ютарнай адукацыі для тых, каму за 40.

**– Дзяніс, але дырэктар – гэта не толькі творчасць. Мусіце ж быць яшчэ і дбайным гаспадаром?**

– З матэрыяльнай базай, на жаль, пакуль што слаба, грошай не стае. Але вельмі хочацца, каб клуб выглядаў больш прыстойна, сучасна. Асабліва калі ўлічыць тую колькасць людзей, якая да нас прыходзіць.

**– А як у Побалава звяртаюцца да маладога дырэктара?**

– Самыя прасунутыя – спадар Дзяніс. Але гэта ладна. Мянушку ж якую далі: "Прэзідэнт"! Так што тут магу і Лукашэнку скласці канкурэнцыю.

**– Дзяніс, але ж праўда: вам 33 гады, хутка скончыце ўніверсітэт, самы час пераходзіць на больш высокі ўзровень. Маглі б у тыя ж мясцовыя Саветы пайсці…**

– Не, я вырашыў пачакаць да парламенцкіх выбараў. Буду ў 2019-м балатавацца ад Рагачоўскай акругі. Мне здаецца, што людзі мяне павінны падтрымаць. Самае галоўнае – яны ўбачылі, як можа працаваць чалавек з альтэрнатыўнымі поглядамі. А дэпутацкай работы я не баюся. Пасля клуба агульную мову знайду з любой публікай.

## «Клуб на сяле – стратэгічны аб'ект»

*На працоўным стале ў Дзяніса Дашкевіча, як і год таму, – бел-чырвона-белы сцяг. Партрэт Васіля Быкава таксама нікуды не знік. Дашкевіч кажа, што палітыку з работай па-ранейшаму стараецца не змешваць:*

– Вядома, калі я выйду на плошчу ў Рагачове і буду крычаць "Жыве Беларусь!", пытанні ўзнікнуць. Але калі прасоўваць свае ідэі акуратна, цывілізавана, усё атрымаецца. Хаця ў раёне спачатку як думалі? Вось паставім гэтага апазіцыянера, які толькі гаварыць умее, а праз год, як ён заваліць справу, па ціхай вадзе і звольнім.

**– А што мясцовае кіраўніцтва?**

– А вы ведаеце, і са старшынёй сельсавета знайшлі агульную мову. Так што платы фарбаваць нас не прымушаюць і сцэнарыі дыскатэк не правяраюць. Так і напішыце!

**– Якія праблемы застаюцца пакуль невырашальнымі?**

– Прэзідэнт як кажа? Працуе ўстанова – атрымлівае падтрымку, не працуе – не атрымлівае. І вось глядзіце: у Побалава людзі літаральна начуюць у клубе, а заробак у іх такі ж, як і ў суседняй вёсцы, дзе ўвогуле нічога не адбываецца. Але самае крыўднае, што нашы ж грошы, якія мы атрымаем за платныя паслугі, забяруць на іх камунальныя пазыкі! А мы б рамонт маглі зрабіць, мікрафон які купіць…

**– Тым больш: станеце дэпутатам – будзеце ведаць, з чаго пачынаць.**

– На сяле перш за ўсё трэба ствараць інфраструктуру. Яшчэ пяць гадоў таму ў Побалава было ўдвая больш моладзі. Людзі адсюль бягуць, бо няма працы. А клуб на сяле – гэта ўвогуле стратэгічны аб'ект! Калі чалавеку ёсць чым заняцца, куды схадзіць, ён і выпіваць будзе менш, і сэнс у жыцці нейкі з'явіцца.

**– Дзяніс, вось слухаю вас і думаю: а сапраўды, не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек – месца!**

– Не істотна, чым ты кіруеш – сайтам, міжнароднай кампаніяй ці сельскім клубам. Павінна быць звычайнае жаданне штосьці зрабіць. У мяне гэта жаданне ёсць. Вы не ўяўляеце, як я хацеў, каб наш цэнтр культуры быў лепшым у раёне! І я зраблю так, каб ён быў першым і ў вобласці, а можа, і ў Беларусі. Чаму не?

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**
*Рагачоўскі раён.*

МАЗАІКА

# Беларускія трэнеры выйшлі на еўрапейскі ўзровень

*Маскоўскі футбольны ЦСКА, які ўзначальваюць беларускія трэнеры Віктар Ганчарэнка і Аляксандр Ермаковіч, згуляе з французскім «Ліёнам», а кіеўскае «Дынама» экс-настаўніка зборнай Беларусі Аляксандра Хацкевіча – з італьянскім «Лацыа».*

Усе вынікі жараб'ёўкі:
"Лацыа" (Італія) – "Дынама" (Украіна)
ЦСКА (Расія) – "Ліён" (Францыя)
"Лейпцыг" (Германія) – "Зенит" (Расія)
"Атлетыка" (Іспанія) – "Локомотив" (Расія)
"Алімпік" (Францыя) – "Атлетык" (Іспанія)
"Спортынг" (Партугалія) – "Вікторыя Плзень" (Чэхія)
"Барусія" (Дортмунд, Германія) – "Зальцбург" (Аўстрыя)
"Мілан" (Італія) – "Арсенал" (Англія)
Матчы 1/8 фіналу пройдуць 8 і 15 сакавіка.

# Краіна ведае «герояў»

*На пасяджэнні асацыяцыі «Беларуская федэрацыя футбола» вынесены рашэнні аб асобах, якія ўдзельнічалі ў дамоўленых матчах.*

За арганізацыю дамоўленых матчаў былы футбаліст **Вячаслаў Замара** і трэнер-адміністратар **Юрый Сыраквашка** («Прамень», Мінск) абвешчаны персонамі нон грата – асобамі, непажаданымі для дзейнасці федэрацыі.

Пакаранню ў выглядзе пажыццёвай дыскваліфікацыі падвергліся футбалісты **Аляксандр Цішкевіч** («Іслач»), **Аляксандр Лебедзеў** («Іслач»), **Андрэй Парываеў** («Іслач»), **Юрый Рыжко** («Іслач»), **Сяргей Шуманаў** («Прамень», Мінск), **Ігар Жураўлёў** («Прамень»), **Віталь Жалудок** («Ашмяны-БДУФК»), **Вячаслаў Палазнік** («Ашмяны-БДУФК»), **Ягор Гудзель** («Ашмяны-БДУФК»), **Аляксей Саковіч** («Ашмяны-БДУФК»), **Ілля Гаўрылаў** («Граніт»), трэнер **Уладзімір Макоўскі** («Іслач»).

Пакаранню ў выглядзе дыскваліфікацыі на 24 месяцы падвергліся футбалісты **Іван Дзенісевіч** («Іслач»), **Аляксандр Алумона** («Іслач»), **Аляксандр Папуш** («Іслач»), **Аляксандр Тарлікоўскі** («Прамень», Мінск), **Андрэй Напорка** («Прамень», Мінск), **Дзяніс цМядзведзеў** («Прамень», Мінск), дырэктар **Дзмітрый Карпоўскі** («Прамень», Мінск), **Дзяніс Жбанкоў** («Ашмяны-БДУФК») а таксама былы футбаліст **Дзмітрый Макар** і былы арбітр **Станіслаў Савіцкі**.

У адносінах да так званага матча-фантома сябры камітэта прынялі рашэнне пажыццёва дыскваліфікаваць супрацоўнікаў **Паўла Качановіча** («Шахцёр», Салігорск) і **Уладзіслава Каранеўскага** («Слуцк»), а таксама грамадзян **Лысакова і Гарбунова.** Нагадаем, што яны прапанавалі двум прадстаўнікам футбольных клубаў «Шахцёр» і «Слуцк» апублікаваць у інтэрнэце вынікі футбольнага матча, які нібыта адбыўся, тым самым увёўшы ў зман замежныя букмекерскія канторы, і, загадзя ведаючы вынік, зрабіць гарантаваныя выйгрышныя стаўкі.

# Лыжнік прадае свае акуляры

*Беларускі спартсмен Сяргей Далідовіч выставіў на дабрачынны аўкцыён алімпійскія акуляры з Лілехамера і смартфон з Пхёнчхана.*

Таргі ўжо пачаліся на пляцоўцы аб'яў «Куфар» і працягнуцца да 17.00 13 сакавіка. Атрыманыя ад продажу лотаў грошы будуць перададзены выхаванцам Андрэеўскага дзіцячага дома каля Оршы, роднага горада лыжніка.



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# «Крумкачы»: быць альбо не быць?

*Футбольны клуб па-ранейшаму застаецца ў сітуацыі нявызначанасці.*

Аматары мінскага прыватнага клуба, якія любяць і падтрымліваюць каманду ў любы час, з заміраннем сэрца сочаць за тым, што будзе з "крумкамі". Пакуль што навіны даволі супярэчлівыя. Пачнём з непрыемнага.

Днямі камітэт па клубным ліцэнзаванні адмовіў "Крумкачам" у выдачы ліцэнзіі на ўдзел у вышэйшай лізе ў новым сезоне. І нават у футбольным календары, які ўжо складзены, пакуль замест "Крумкачоў" напісана "16-я каманда".




*"У сувязі з сістэматычнымі парушэннямі патрабаванняў рэгламенту па ліцэнзаванні і кантролі дзейнасці клубаў, якое выражалася ў неаднаразовым парушэнні тэрмінаў прадастаўлення дакументаў, што пацягнула зрыў працэсу ліцэнзавання, заяву "Крумкачоў на выдачу ліцэнзіі для ўдзелу ў вышэйшай лізе да разгляду не прымаць"*, – гаворыцца ў заяве федэрацыі.

*Далей паведамлялася, што падчас мінулых сезонаў тая ж федэрацыя неаднаразова ішла на саступкі "маладой камандзе, але, на жаль, гэтыя крокі не паспрыялі развіццю, а, наадварот, прывялі да пагаршэння становішча спраў у клубе. У гэтым годзе сітуацыя дасягнула крытычнай адзнакі. Нягледзячы на спробы паказаць станоўчую дынаміку пагашэння запазычанасцяў у СМІ, сумарны доўг футбольнага клуба складае каля 600 тысяч беларускіх рублёў".*

Таксама ў федэрацыі нагадалі, што "Крумкачам" забаронена рэгістраваць новых футбалістаў, бо заявы аб запазычанасцях напісалі 12 ігракоў і прадстаўнікоў трэнерскага штаба.

Клуб, безумоўна, не пагадзіўся з такой пазіцыяй і падаў апеляцыю на рашэнне федэрацыі. Тым больш што клуб знайшоў сабе новага спонсара – кантрольны пакет акцый "ФК "Крумкачы" выкупіў 26-гадовы бізнесмен з Арменіі **Ваге Марцірасян**, у якога свае камерцыйныя інтарэсы ў Беларусі.

*"Спецыяльна пад "Крумкачоў" падрыхтаваў бізнес-праект*, – распавёў ён tut.by пра свае планы. – *На 2016 год запланаваны бюджэт – 600 тысяч долараў. А ў далейшым узровень фінансавання будзе залежаць ад тэмпаў развіцця клуба. У мяне сямейны бізнес у сферы гандлю і паслуг на тэрыторыі роднай Арменіі, іншых краін СНД і Еўропы. На жаль, у Беларусі ў нас нічога няма, але мы думаем, каб нешта тут адкрыць. Пакуль я спыніўся на тым, што набыў футбольны клуб. Гэта самы вялікі бізнес, які я збіраюся мець на тэрыторыі Беларусі".*

Ваге Марцірасян кажа, што даўгі перад футбалістамі пагашаюцца і клуб не разглядае "песімістычны сцэнарый".

*"Спадзяёмся, што пытанні з апеляцыяй, а таксама з допускам нашай заяўкі на ліцэнзію ўсё-такі вырашыцца станоўча"*, – дадае ён.

*"І на самай справе: чаму для некага павінны быць выключэнні?* – напісаў спартыўны журналіст **Барыс Тасман** на journalby.com. – *Выходзіць указ прэзідэнта №191 аб дзяржаўнай падтрымцы спартыўных клубаў, у якім названы 15 футбольных клубаў вышэйшай лігі. Адным словам, усіх… акрамя "Крумкачоў". А ведаеце, колькі каштуе дзяржпадтрымка? Ад 300 тысяч да мільёна долараў у год! Гэта значыць, што нехта атрымлівае з нашай з вамі кішэні 2 мільёны долараў за два сезоны, а "крумкі" – кукіш з маслам. Такі вось у нас суперчэсны чэмпіянат краіны! Пазбаўце ўсіх дзяржпадтрымкі – і тады ўбачым, да якога лютага яны пададуць ліцэнзійныя дакументы і наогул колькі тады клубаў застанецца ў вышэйшай лізе".*

Тым часам зараз мяч на баку футбольных функцыянераў. Менавіта яны будуць вырашаць далейшы лёс "Крумкачоў".

**Алесь СІВЫ.**

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# Судьбы серебряная канитель

## Как королева красоты из Витебска стала собственницей эксклюзивного торгового бренда в Париже

В парижском квартале Маре, рядом с площадью Вогезов – самой старинной площадью города, расположился бутик очень дорогих сумок. Его владелица – белоруска Мария Кежа. Биография этой женщины вызывает уважение. Она родилась в Витебске и оттуда же в далеком 1990-м поехала на конкурс "Мисс СССР". И победила, став последней красавицей, выбранной страной, которой больше нет на карте.

Скольких красавиц с тех пор узнала наша страна! У многих этот титул так и остался красивой строчкой в биографии. Но для Маши он стал хорошим трамплином. Теперь Мария живет в Париже и владеет собственным торговым брендом "Masha Keja".



Мы появились на пороге ее магазинчика, безнадежно опоздав на полчаса из-за кривых парижских переулков, в которых заблудиться одно удовольствие. Маша встретила нас улыбкой, крепким кофе и профессиональным рассказом о том, чем ее кожаные сумки отличаются от моря подобного товара: каждая вручную расшита серебряной или золотой канителью! Как говорит энциклопедия, канитель представляет собой особый вид вышивки – это царское искусство! Золотой канителью, например, расшивали мундиры наполеоновских генералов. Ее использовали для одеяний высокие иерархи церкви. Теперь сложный узор из канители, который разработала сама Мария Кежа, красуется на всех ее моделях сумок, которые стоят от 600 до 2,5 тысячи евро. Но, судя по тому, что бутик в центре Парижа работает, как часы, покупатели этого роскошного товара за ценой не стоят.

Мария объясняет причину успеха:

– Мы были первыми, кто сделал канитель на коже. Процесс сложный, долгий и трудоемкий. Кожа ягненка тонкая, два миллиметра, но для пальцев вышивальщиц невероятно тугая. Автоматическую вышивку мы пробовали, есть для этого специальные программы, есть хлопковая посеребрённая нить… Но узор получается плоский! Совсем другой эффект.

**– Кто разработал этот сложный узор? Эту бабочку… или корону?**

– Эту смесь имперского орла и действительно бабочки – наш фирменный знак – я разработала сама. Я создала компанию, этот бутик, его полки, его оформление. Производство сумок стоит немыслимых денег, это знают все, кто работает с кожей: очень сложно делать качественные вещи.

**– Хм, все-таки откуда у вас такой размах? Как сложилась ваша судьба после конкурса? Вы, конечно, вышли замуж за иностранца?**

– И не один раз. Теперь у меня третье замужество, окончательное и бесповоротное. Во Франции я живу 24-й год. А первым моим избранником был немец. Это было печально, я не была готова к замужеству. Так бывает у девочек.

**– Наверное, тогда, в начале 1990-х, вы хотели во что бы то ни стало вырваться из нашего постсоветского мира, мы все переболели этой болезнью.**

– Было сложное время. Помните, победительниц конкурсов красоты и кислотой обливали, и резали им лицо. В Москве за мной настойчиво ухаживали кавказцы… Посылались цветы, шоколад… Я не принимала подарки. Тогда шли бурные объяснения: «Как?! Ты не хочешь?!» Невозможно было выйти куда-либо без сопровождения. И вот – немец. Он был журналистом, талантливым парнем, увлекался театром, фото, русским языком. Стал ухаживать за мной, мы поженились. Но, к сожалению, не смогли быть долго вместе. Я сбежала. У меня даже не хватило мужества объясниться, я убежала втихаря.

**– И куда вы убежали?**

– К маме! Мне не было и 20 лет. Да, очень неловко, и потом, когда немного успокоилась, я написала немцу письмо и попросила прощения.

**– А почему это произошло? Только ваш нежный возраст был причиной разрыва? Или вы не смогли привыкнуть к другому миру?**

– Это был мой первый мужчина. И… не очень удачный сексуальный опыт. Он не был чуток ко мне. В Германии девочки уже в то время, 25 лет назад, принимали противозачаточные таблетки с 14 лет. Но муж не понял, не поверил мне… Тонкий вопрос. И, конечно, другой, западный мир отторгал меня. Мы жили в Кельне.

**– Может, давила материальная зависимость?**

– Нет. Деньги никогда не стояли между мной и моими мужчинами. Потом мне делал предложение французский миллиардер, мы должны были пожениться, но…

**– Чем он-то вам не угодил?**

– Я хотела быть счастливой.

**– А что сказала мама, когда вы вернулись в Витебск из Германии?**

– Что вы, мама очень расстроилась! Я была первой в нашей семье, кто решился на развод. И еще мама переживала, что в Витебске обо мне будут судить с пристрастием.

**– Конечно, такой сокрушительный обвал голубой мечты у королевы…**

– Я постаралась побыстрее уехать опять в Москву. Меня пригласили в рекламное агентство для съемки рекламы косметики «Велла». Фото доолго долго сохранялось потом на фирменных упаковках краски для волос. Мне отлично оплачивали работу: за три часа перед фотокамерой получала столько же, сколько мой отец, инженер высокого уровня, получал за год. Сначала я снималась в Москве, вскоре переехала во Францию. И как только приехала в Париж, поняла, что это моя страна. Я увидела колосочки вперемешку с мелкими цветками, которые росли в неположенном месте. Такую травку вы никогда не увидели бы в Германии, у них немыслимо отступление от правил, там все идеально, ни соринки, ни мусоринки.

**– В общем, аптека…**

– И меня это душило. Там даже лес – это деревья в строгом порядке на расстоянии полутора метров друг от друга. Все в клетку. А в Париже, оказывается, дикая трава пробивается сквозь асфальт? И люди ее оставляют. Это моя страна!

**– Говорят, любимый французский девиз «Запрещаем запрещать!».**

– Это страна художников, людей с творческой душой, будь ты математик, физик, химик. Франция умеет воспитывать тонкую ноту в людях. Воспитывать и принимать.

**– Во Франции вы продолжили карьеру модели?**

– Да, но она была короткой. В путешествии по Марокко случилась автомобильная авария, я получила довольно существенные травмы на лице. Теперь из-за возрастных морщинок у глаз их не видно, а тогда порезы еще долго были красные, свежие… Плюс крупные шрамы под волосами.

**– Кто виноват?**

– Ах… Мы ехали, торопились, хотели увидеть пустыню. Насыпная дорога, машину стало заносить. Я попросила: «Ребята, сбросьте скорость!» Сбросили… Но на повороте машину все равно понесло.

**– Никто не погиб?**

– Нас было четверо в машине, и, слава Богу, никто не погиб. Машина перевернулась, я вылетела через лобовое стекло, хотя место за водителем, на котором я сидела, считается самым безопасным. Не понимаю, как это произошло… Водитель – совсем молодой парень, сын того самого миллиардера, который сделал мне предложение. Да, мы собирались пожениться, но в итоге я приняла честное решение.

**– На этот раз вы смогли поговорить глаза в глаза?**

– Именно. Он до сих пор мой хороший друг, приезжает и часто покупает сумки для себя и своей мамы.

**– Но тогда авария была ударом судьбы…**

– Шок! Меня восстанавливали в американском госпитале, куда доставили на вертолете, давали хорошие лекарства.

**– Как вы справились с мыслью, что на карьере модели, которая только стала подниматься в зенит, придется ставить крест?**

– Хм… Знаете, я уже до аварии начинала чувствовать, что модельный бизнес – не мое. Я не исполнитель, я по натуре создатель.

**– То есть отчаяния не было?**

– О, нет-нет! Было немного досадно, потому что срывался красивый контракт, я должна была ехать в Италию на дефиле в свадебных платьях, а восстанавливалась долго, около года. Но время лечит. Поправившись, стала работать дизайнером в очень известной компании сумок Lancel.

**– Ах, вот когда забрезжило будущее!**

– Я стала рисовать модели, ведь у меня за плечами художественная школа. В общем, работала с удовольствием. Молодость, свобода... Безусловно, я искала новых знакомств. И второй брак был с дизайнером машин. Но он тоже продлился недолго, всего год. Без детей, так что без потерь. И тогда я решила больше замуж не выходить, я и так была окружена вниманием, и мужским, и женским. Но женским, правда, не всегда позитивным. Потому что мои метр восемьдесят, светлые волосы и приятная внешность женщин раздражали.

**– Вас, конечно, часто спрашивали, откуда вы родом?**

– И спрашивают до сих пор. И считают, что я шведка. О Беларуси, к сожалению, знают приблизительно. Хотя французы с большим интересом относятся и к России, и к Беларуси. В общем, шло время, я купила квартиру в 16-м округе…

**– На свою дизайнерскую зарплату?!**

– Да, карьера в Lancel пошла в гору, начинала ассистенткой, а стала ответственной за дизайн всех сумок фирмы. В свободное время стала ходить в спортивный клуб – чтобы снять напряжение, разгрузить плечевой пояс от многочасовой работы за столом. Вот именно там, в поте лица, без макияжа, и увидел меня мой муж.

**– Чем он вас покорил?**

– Настойчивостью. А еще Оливье Гардеро очень легкий и внимательный собеседник. Он ухаживал за мной долго, месяцев 6–7. А потом я вдруг увидела, что он будет идеальным отцом моего ребенка. И тогда я прямо сказала: «Хочу за тебя замуж!» Он ответил: «Замечательно! Поехали в отпуск!» Вскоре у нас родился прекрасный сын. Я очень ценю в Оливье его толерантность, он полностью принял мою культуру, и, главное, он следует за мной во всех творческих идеях. Он помог с капиталом, я тоже продала квартиру, чтобы начать свое дело. Все сложили, рискнули и…

**– Не прогадали.**

– Теперь муж ведет счета фирмы, всю нашу бухгалтерию, хотя приглашенный специалист тоже есть. А я рисую. Мы работаем очень напряженно. Кстати, наша фирма есть в интернете, нас можно найти по телефону и в 12 ночи, и в 6 утра – мы всегда на посту. Вот что значит собственное свое дело.

**Елена МОЛОЧКО.**
**Фото Николая КИРЕЕВА.**
**Париж–Минск.**

СПОРТ

# Хто паедзе на Паралімпіяду?

## 9 сакавіка ў Паўднёвай Карэі адкрываюцца XXII зімовыя Паралімпійскія гульні.

15 беларускіх спартсменаў выступяць у двух відах спорту – біятлоне і лыжных гонках. Сцяганосцам паралімпійскай зборнай Беларусі на цырымоніі адкрыцця будзе шматразовая чэмпіёнка і прызёр Паралімпіяд і чэмпіянатаў свету **Людміла Волчак**, капітанам каманды стане яшчэ адзін тытулаваны паралімпіец **Дзмітрый Лобан**.

Акрамя вопытных атлетаў, якія будуць змагацца за ўзнагароды, у складзе беларускай дружыны 6 дэбютантаў Паралімпійскіх гульняў.

Цяперашнія Паралімпійскія гульні пройдуць з 9 па 18 сакавіка на арэнах, дзе спаборнічалі ўдзельнікі Алімпіяды-2018.

Паралімпійцы разыграюць 80 камплектаў узнагарод у шасці відах спорту. За медалі будуць весці барацьбу каля 700 прадстаўнікоў 48 алімпійскіх каманд.

КРЫЖАВАНКА

# З вясеннім святам вас, мілыя, дарагія жанчыны!




**Па гарызанталі:** 1."Вясна-прыгажуня ідзе!// Хто ў шапку не спіць, той збірае яе пацалункі" – з верша Т.Дзям'янавай "Якія шэдэўры стварае …-сакавік!". 6."…, праведзены з жанчынай, нельга лічыць згубленым" (А.Маруа). 7."Зубы тыя, што …,//Выгнутыя броўкі" – з верша П.Броўкі "Клопаты". 9.Ансамбль з васьмі выканаўцаў. 12.Ударны музычны інструмент. 13.Паштальёнка (разм.). 16.Вясновы … – не дарога, а п'яная мова – не гутарка (прык.). 17.Пасільны ўклад у якую-небудзь агульную справу (перан.). 18.Вандроўнік (перан.). 19.Дом без жанчыны – што … без вады (армянская прык.). 20.Якая …, такія і дзеткі (прык.). 22."Наша мова – бярозавік весні,//... жаўруковае песні" – з верша Я.Золака "Наша мова". 25.Бог стварыў мужчыну і адпачываў, а стварыў жанчыну – і ўсе згубілі … (яўрэйская прык.). 27.Грак – першы … вясны (прык.). 29."У вяснушках вясна//... бярозавы п'е" – з верша Я.Пушчы "Вясна". 30. … павінен мець вока сокала, сэрца льва і рукі жанчыны (прык.). 31.Падсмажаныя лустачкі хлеба.

**Па вертыкалі:** 2.Званне, звязанае з пачэсным становішчам. 3.Дугападобнае перакрыццё праёма ў сцяне. 4.Квадратны выраз каўняра на сукенцы. 5.Спачатку пабудуй дом і складзі …, а потым прывядзі і жонку (фінская прык.). 8.У іспанамоўных краінах – дзяўчына, паненка. 10."Разбойнікі патрабуюць … ці жыццё, жанчыны – і тое, і другое" (Б.Самюэль). 11."У хаціне вечарына,//Скокі, песні, … .//Задаюць настрой сябрыне//Муха, тля і таракан" (прыпеўка). 14.Ад кахання, як ад хваробы, губляюць сон і … (прык.). 15.Малазійская багіня, Маці багоў. 19.Люты будуе …, а сакавік яго ломіць (прык.). 21."… ў цябе ўлюблена,//Яшчэ не зашлюблена" – з беларускай народнай песні "Дубочак зялёненькі". 22.Цвёрдыя духмяныя плады паўднёвага дрэва. 23.Адважны, горды чалавек (перан.). 24.Узрост мужчыны – яго дух, узрост жанчыны – яе … (японская прык.). 26.Міфалагічны цар птушак. 28.Бацька ахоўвае яе ў дзяцінстве, муж – у маладосці, … – у старасці; нельга пакінуць жанчыну самой сабе (індыйская прык.).

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

**Адказы**
**Па гарызанталі:** 1.Мастак. 6.Час. 7.Часнок. 9.Актэт. 12.Гонг. 13.Паштарка. 16.Шлях. 17.Лепта. 18.Пілігрым. 19.Млын. 20.Матка. 22.Аксаміт. 25.Спакой. 27.Вястун. 29.Сок. 30.Доктар. 31.Грэнкі.
**Па вертыкалі:** 2.Сан. 3.Арка. 4.Карэ. 5.Ачаг. 8.Сеньярыта. 10.Кашалёк. 11.Тарарам. 14.Апетыт. 15.Ма. 19.Мост. 21.Адна. 22.Айва. 23.Арол. 24.Твар. 26.Кук. 28.Сын.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# Зміцер Вайцюшкевіч распачынае тур па Беларусі

*7 сакавіка канцэртам «Вясновы дзень» у мінскім Палацы культуры імя Шарко распачынаецца першы за шмат гадоў тур Зміцера Вайцюшкевіча па Беларусі. Гледачоў вялікіх і малых гарадоў чакаюць лірычны настрой і лепшыя песні.*

Цягам вясны запланаваны канцэрты Вайцюшкевіча ва ўсіх абласных, а таксама шматлікіх раённых цэнтрах. На гэты момант акрамя Мінска пацверджаны сольныя выступленні ў Віцебску (10 сакавіка) і Астраўцы (5 красавіка).

– *У лютым адбыўся «тэставы» канцэрт у роднай Бярозаўцы – першы за 10 год. Таму ўсё павінна быць добра,* – гаворыць Зміцер Вайцюшкевіч. – *Для мяне гэта вельмі чаканыя сустрэчы, бо мае слухачы для мяне галоўныя і самыя любімыя людзі пасля маёй сям'і!*

**Вера ВІР.**



Калектыў рэдакцыі газеты "Народная Воля" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы Пуставалавай Ірыне Васільеўне з нагоды напаткаўшага яе вялікага гора – смерці мужа Уладзіміра Яўгенавіча.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

9 772071 964000 18019

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 05.03.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 470 экз. Заказ № 924.